7 сакавіка 2019 | № 9 (620)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Вяртанне жывых «саўкоў»

Стар. 9





# Чыё свята 8 сакавіка?



Сяргей ПУЛЬША

**«Гендарныя святы» ў мяне заўсёды выклікалі пачуццё нейкай недарэчнасці. Нешта не вельмі слушнае ў тым, што 23 лютага афіцыйна — «Дзень абаронцаў Айчыны», а 8 сакавіка — «жаночы дзень». «Чорт пабірай», як выказаўся б Уладзімір Караткевіч, ці павінен быць жаночы дзень адным днём у годзе?**

Зразумела, што 8 сакавіка — нібыта дзень міжнародны. Аднак ААН у 1977 годзе выключна «прапанавала дзяржавам абвясціць, у адпаведнасці з іх традыцыямі і звычаямі, любы дзень года Днём барацьбы за правы жанчын і міжнародны мір». Пра 8 сакавіка — нічога.

Што ж да традыцыі Клары Цэткін, Розы Люксембург ды іншае, то гістарычна дзень салідарнасці жанчын у барацьбе за роўныя правы і эмансіпацыю з'явіўся... 28 лютага 1908 года. У гэты дзень па закліку Нью-ёркскай сацыял-дэмакратычнай жаночай арганізацыі адбыўся мітынг з лозунгамі пра раўнапраўе жанчын. Больш за 15 тысяч жанчын прайшлі маршам праз увесь горад, яны патрабавалі скарачэння працоўнага дня і роўных з мужчынамі ўмоваў аплаты працы. Было вылучана і патрабаванне прадстаўлення жанчынам выбарчага права.

У 1909 годзе Сацыялістычная партыя Амерыкі абвясціла нацыянальны жаночы дзень, які адзначаўся аж да 1913 года ў апошнюю нядзелю лютага. Клара Цэткін у 1910 годзе прапанавала заснаваць міжнародны жаночы дзень. Мелася на ўвазе, што ў гэты дзень жанчыны будуць ладзіць мітынгі і шэсці, прыцягваць увагу грамадскасці да сваіх праблем. Але пра дату яна не казала.

У 1911 годзе першы Міжнародны жаночы дзень адзначаўся ў Германіі, Аўстрыі, Даніі і Швейцарыі 19 сакавіка. У 1912 годзе жаночы дзень адзначаўся ў тых жа краінах ужо 12 траўня. У 1913 годзе жанчыны ўпершыню выйшлі на мітынгі ў Францыі і Расіі 2 сакавіка. Масавыя дэманстрацыі прайшлі ў Аўстрыі, Чэхіі, Венгрыі, Швейцарыі, Галандыі 9 сакавіка, у Германіі — 12 сакавіка. І толькі ў 1914 годзе жаночы дзень адзначаўся ў нядзелю, 8 сакавіка, адначасова ў васьмі краінах: ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Даніі, Германіі, Нідэрландах, Расіі і Швейцарыі.

Гэтае невялічкае адступленне паказвае, наколькі хісткую гістарычную падаплёку мае менавіта 8 сакавіка. Але я не пра тое. Я — пра гендарныя святы.

Пачнём з 23 лютага, Дня абаронцы Айчыны. Хто-небудзь падлічваў, колькі сярод «абаронцаў Айчыны» жанчын? Паводле падлікаў Мінабароны, на мінулы год іх было чатыры тысячы. Пры гэтым мы не ўлічваем цалкам засакрэчаны «жаночы кантынгент» у міліцыі (не таму, што жанчыны засакрэчаныя, а колькасць міліцыянтаў у нас слаба вядомая), у Міністэрстве надзвычайных сітуацый, у «медыцыне катастроф»... А колькі жанчын пасля ўніверсітэту маюць вайсковы білет медыцынскіх сёстраў, нават з наданнем вайсковага звання?

Іх жа таксама ж варта залічваць у «абаронцы Айчыны»? Дык 23 лютага — ці гендарнае свята?

Увогуле, у сучасным свеце ролі жанчын і мужчын вельмі істотна змяніліся. Ролю вызначаюць не пол і гендар, а дзелавыя якасці і кампетэнцыі. У прыклад можна прывесці тое, чым дагэтуль запоўнена інфапрастора — «Вялікую размову» беларускага правадыра з прадстаўнікамі СМІ і экспертамі. Пэўныя прадстаўніцы фемінізму былі раз'юшаныя словамі Лукашэнкі пра тое, што ён кіраўніцу сваёй адміністрацыі Наталлю Качанаву прымусіў зняць «свае штаны дзелавыя» і апранаць «доўгія сукенкі», каб танчыць на балі.



Фота Reuters

**Пакуль феміністкі разважалі пра «ролю жанчыны ў гісторыі», мужчыны адцяпалі ў іх тры вялікія індустрыі**

Некаторыя за Качанаву пакрыўдзіліся. Маўляў, яна не апошняя жанчына ў сістэме дзяржкіравання, і мае права ацэньвацца ў межах сваёй дзейнасці, а не па тым, якая ў яе сукенка.

Але што сімптаматычна: ніхто не пацікавіўся рэакцыяй Румаса. Ён, напэўна, таксама не майстар танцполу і не кожны дзень апранае фрак. Чаму б прыхільнікам раўнапраўя не заступіцца яшчэ і за прэм'ера?

Традыцыйныя ролі мужчынаў і жанчынаў змяніліся. Калі раней заканадаўцамі моды былі Мэрылін Манро, Сафі Ларэн і Како Шанэль, то зараз — Даменіка Дольчэ і Стэфана Габана, Кельвін Кляйн і Джорджыа Армані. Паглядзіце на кулінарныя перадачы па тэлебачанні: пэўна, Юлія Высоцкая засталася адзінай жанчынай, якая такую вядзе. Ад «Смаку» на расійскім тэлебачанні да «голага кухара» Джэймі Алівера на Fox — усе спрэс мужчыны.

Пакуль феміністкі разважалі пра «ролю жанчыны ў гісторыі» ды змагаліся за «раўнапраўе», мужчыны адцяпалі ў іх тры вялікія індустрыі: моду, кулінарыю і адпаведныя тэлепраграмы. А значыць, і працоўныя месцы, і магчымасць самарэалізацыі.

***P.S.*** *Жанчыны! Мы, мужчыны, вас любім. Але мы кажам «Я цябе люблю» розным чынам. «Прышпілі рэмень бяспекі». «Надзень шапку». «Ідзі паспі». «Я памыю посуд». «Даедзеш — патэлефануй». «Вазьмі маю куртку». «Я еду, чакай». «Прывезці лекі?». «Што трэба ў краме?»... І многімі іншымі. Проста... Не прапускайце гэта міма сваіх чароўных вушак!*

## Летась у Беларусі зарэгістравана 259 выпадкаў адру. Годам раней — толькі адзін

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**На мінулым тыдні ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці былі зафіксаваны два новыя выпадкі адру. «Новы Час» накіраваў запыт у Міністэрства аховы здароўя з просьбай распавесці наконт сітуацыі з гэтым захворваннем у Беларусі.**

Паводле атрыманага адказу за подпісам намесніцы міністра, галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі Наталлі Жукавай, у краіне за 2018 год зафіксавана 259 выпадкаў адру (для параўнання, за 2017-ты — усяго толькі адзін выпадак). З іх — ніводнага смяротнага. У пераважнай большасці адзначаюцца завазныя выпадкі інфекцыі (у асноўным з Украіны), а таксама выпадкі ў кантактах з хворымі на адзёр асобамі. Адметна, што выпадкі рэгістраваліся, галоўным чынам, сярод дарослых, хаця раней адзёр лічыўся дзіцячай хваробай.

Знізіць распаўсюд захворвання дапамагае вакцынацыя. У Беларусі імунізацыя дзецям супраць адру праводзіцца ва ўзросце 12 месяцаў і 6 гадоў. Ахоп прышчэпкамі дзяцей у нашай краіне складае 98 і болей працэнтаў. Так, летась беларускія медыкі прышчапілі ад адру больш за 286 700 чалавек. Для вакцынацыі выкарыстоўваецца камбінаваная вакцына «Priorix» (Бельгія), выпадкі ўскладненняў ад яе не зарэгістраваныя.

З улікам эпідэміялагічнай сітуацыі па адры, якая складваецца ў свеце і ў сумежных з Беларуссю краінах, Мінздароўя рэкамендуе рабіць прышчэпкі тым, хто выязджае за межы нашай дзяржавы. Агулам жа ў Беларусі створана моцная імунная праслойка, якая не дае цыркуляваць вірусу, адзначаюць у ведамстве.

Адзёр — гэта вострае інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца вірусам. Падчас захворвання могуць развіцца такія ўскладненні, як стаматыт, пнеўманія, менінгіт, энцэфаліт. Інкубацыйны перыяд адру складае ў сярэднім 21 дзень, часам ад моманту заражэння да першых сімптомаў захворвання праходзіць 8–12 дзён, у некаторых выпадках гэты перыяд працягваецца да 28 дзён.

У пачатку захворвання з'яўляюцца сімптомы, падобныя да прастудных: агульнае недамаганне, млявасць, галавы боль. Тыповы знешні выгляд хворага: азызлы твар, пачырванелыя, слязлівыя вочы. Хворага турбуюць насмарк і сухі кашаль, тэмпература падвышаецца да 39–40°C і не змяншаецца пры намаганнях яе панізіць. Голас становіцца асіплым, развіваецца кан'юктывіт.

На 1–2 дзень захворвання на слізістай абалонцы шчок з'яўляюцца дробныя белаватыя плямы, а затым з 4–5 дня ад пачатку хваробы адзначаецца паэтапнае распаўсюджванне сыпу: спачатку за вушамі, на твары, шыі, на працягу наступных сутак сып узнікае на тулаве і руках, і на 3-ці дзень з'яўляецца на нагах. У наступныя 3–5 дзён пры спрыяльным працягу сімптомы хваробы памяншаюцца, тэмпература зніжаецца. Хворы максімальна заразны за 2 дні да з'яўлення прыкмет захворвання і да 4–5 дзён пасля з'яўлення сыпу.

# Забіць на Расію,
## ці Навошта нам Кантынентальная ліга

Павел КІРЫЛАЎ

**Серыя гульняў паміж мінскімі хакейнымі камандамі «Дынама» і «Юнацтва», узмоцненага гульцамі шэрагу іншых клубаў, аднавіла дыскусію пра тое, ці варта Беларусі мець свайго прадстаўніка ў Кантынентальнай хакейнай лізе, якая, па сутнасці, ёсць адкрытым чэмпіянатам Расіі. Прычым усур'ёз абмяркоўваецца праект сумеснага турніра з іншымі нашымі краінамі-суседзямі.**

Серыя да дзвюх перамогаў атрымалася інтрыгоўнай і напружанай. Спачатку выйграла «Юнацтва» (ці, можна, сказаць, зборная Экстралігі), затым КХЛаўскае «Дынама». У вырашальным трэцім матчы яно вяло 3:0, але пасля дапусціла камбэк суперніка і перамагло толькі па булітах.

Серыя была адметнай і тым, што на ўсіх гульнях ад пачатку да канца прысутнічаў Лукашэнка з малодшым сынам. Больш за тое, кіраўнік краіны паведаміў, што менавіта ён ініцыяваў двубой. Варта зазначыць, што гэта была значна лепшая ідэя і цікавейшае відовішча за палітызаваны «Калядны турнір», які звычайна выйграе прэзідэнцкая каманда і на які прымусова-добраахвотна запаўняюць трыбуны школьнікамі.

Цыркулявалі чуткі, што нібыта пераможца серыі і будзе гуляць у наступным сезоне ў КХЛ. Як бы тое ні было, «Дынама» выйграла і рыхтуецца да новага сезона. Адно што чакаецца змена трэнерскага штаба і, напэўна, скарачэнне бюджэту. Нездарма Лукашэнка паграджаў «дынамаўцам» за дрэнную гульню заробак «па 500», пра які мараць сотні тысяч беларусаў.

Што да фінансавага пытання, то «Дынама» — адзін з самых бедных клубаў у КХЛ. З расейцамі тут цягацца складана. Таму беларускі клуб кожны сезон вырашае ўсяго толькі задачу: патрапіць у сваёй канферэнцыі ў «васьмёрку» і плэй-оф. Два апошнія гады гэта не ўдаецца. Разам з тым аўтсайдарскае ў КХЛ «Дынама» не стала і базавым клубам для нацыянальнай зборнай Беларусі. На першых ролях, у лідарскіх звёнах, легіянеры, а не беларускія хакеісты.

І зборная перажывае вялікі крызіс: летась яна ўпершыню з 2004 года вылецела з вышэйшага дывізіёну і сёлета будзе з 29 красавіка па 5 траўня спрабаваць у яго вярнуцца. Прычым многія хакейныя спецыялісты прагназуюць, што гэта ёй не ўдасца. Казахстану загадзя аддаюць першае месца, Літву і Паўднёвую Карэю нашы хіба што перамогуць лёгка, а ў барацьбе за другую пуцёўку з венграмі і славенцамі будзе няпроста. Ім нядаўна прайгравалі ў афіцыйных турнірах, прычым сенсацыямі паразы ўжо не лічыліся.

На гэтым фоне апошнія тыдні ўсур'ёз абмяркоўваецца пытанне па выхадзе мінскага і рыжскага «Дынама» з КХЛ і, самае галоўнае, стварэнне чэмпіянату сярод клубаў Беларусі, Латвіі, Украіны, Літвы, Польшчы ды Эстоніі. Можна сказаць, чэмпіянату Рэчы Паспалітай. Дарэчы, такі турнір ужо існаваў у 1995–2004 гадах як Усходнееўрапейская хакейная ліга. Разлік просты — спартова-эканамічны: чаму б не гуляць з больш-менш роўнымі сабе і эканомна, не лятаючы ў той самы Уладзівасток. Тым больш калі выніку ад амбіцыяў усё адно няма.

Цікава, што пра Рэч Паспалітую прыгадалі ў Беларусі і гандбольныя функцыянеры. Гандбольныя федэрацыі Беларусі, Польшчы і Літвы падпісалі мемарандум пра намер правесці разам мужчынскі чэмпіянат Еўропы–2026. Старшыня Беларускай федэрацыі гандболу Уладзімір Канаплёў пры гэтым сказаў: «Мы як прадстаўнікі былой адзінай дзяржавы, Рэчы Паспалітай, вырашылі паспрабаваць, паглядзець, што ў нас атрымаецца на фоне іншых еўрапейскіх краін». Рашэнне аб месцы правядзення чэмпіянату Еўропы–2026 кангрэс Еўрапейскай федэрацыі гандболу прыме праз два гады.

Цікава, колькі пратрымаецца ў чэмпіянаце Расіі па валейболе «Мінчанка», якая пачала гуляць там сёлета. Пакуль плён так сабе: летась яна перамагала аднаго з тамтэйшых лідараў «Уралачку» ў еўракубках, а цяпер у аўтсайдарах у суседнім чэмпіянаце.

Эмацыйна-патрыятычная дыскусія разгарэлася нядаўна ў футболе пасля таго, як беларусы перасталі лічыцца легіянерамі ў чэмпіянаце Расіі. Асаблівы рэзананс выклікалі словы абаронцы зборнай і «Уралу» Дзяніса Палякова: «Вядома, удзячны Лукашэнку і Пуціну за такое рашэнне. Мы практычна адна краіна, у нас адзін народ». Некаторыя заўзятары нават абяцаюць не хадзіць на гульні зборнай, калі ў яе складзе будзе Палякоў.

Зрэшты, футбол — асобная тэма. Пры канцы сакавіка адбудуцца выбары на пасаду старшыні Беларускай федэрацыі футболу, з якой сыходзіць прэм'ер-міністр Сяргей Румас. Сярод прэтэндэнтаў на замену яму — былы футбаліст БАТЭ і «Мілана» Віталь Кутузаў і спартовы каментатар Мікалай Хадасевіч, які днямі паабяцаў цікавую перадвыбарчую кампанію з прапановамі рэформы.

## Судовыя выканаўцы арыштавалі кватэру Фядыніча і аўто Комліка

**Аддзелы прымусовага выканання Цэнтральнага і Фрунзенскага раёнаў Мінска распачалі выканаўчую справу ў дачыненні да лідараў незалежнага прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка.**

Пра гэта паведамілі лідары незалежнага прафсаюза сайту praca-by.info.

З улікам канфіскаваных грошай падчас ператрусаў у жніўні 2017 года Фядынічу і Комліку заставалася выплаціць каля 4 тысяч беларускіх рублёў. Але судовыя выканаўцы хочуць спагнаць больш за 50 тысяч паводле прысуду па «справе прафсаюзаў», а таксама за правядзенне экспертызаў і кампенсацыю дзяржаўнай пошліны.

Пра дзіўную працэдуру спагнання запазычанасці распавёў лідар прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч:

«У снежні — першай палове студзеня мы з Ігарам Комлікам атрымалі пастановы пра распачацце выканаўчай вытворчасці. Працэдура ўпісваецца ў межы закона, каб не адно «але». Пастановамі прадпісваецца нам з Комлікам у сямідзённы тэрмін заплаціць дзяржаўную пошліну па 1470 рублёў 63 капейкі, аплаціць 2387 рублёў 33 капейкі за правядзенне экспертызаў, падаткаў і збораў.

Такія пастановы аддзелаў прымусовага выканання насцярожваюць. Падчас ператрусаў у жніўні 2018 года ў нас былі канфіскаваныя ўсе сямейныя зберажэнні. Калі іх перавесці ў беларускія рублі, дык іх бы хапіла на аплату больш чым трох чвэрцяў так званай «шкоды», якую мы з Комлікам павінны кампенсаваць».

Лідары прафсаюза накіравалі на адрас аддзелаў прымусовага выканання заявы, у якіх папрасілі паказаць разлік: паводле якога курса канфіскаваная валюта пералічвалася ў рублі, якая сума з яе вылічаная і якую рэшту «маёмаснай шкоды» яны яшчэ засталіся вінаватыя.

«20 лютага я згодна з позвай наведаў аддзел прымусовага выканання Цэнтральнага раёна. Размова ішла пра тое, што згаданыя сумы будуць спагнаныя з канфіскаваных сродкаў, пасля гэтага вылічаная рэшта запазычанасці і вызначна, якім чынам мы плануем яе кампенсаваць.

Аднак, калі я вярнуўся ўвечары дадому, мяне чакала апавяшчэнне ад судовага выканаўцы Петранчук М.В., што сваёй пастановай наклала арышт на адзіную кватэру, у якой пражываем я і мая сям'я. Сумнеўна, што падчас размовы са мной яна не ведала, што ўжо гэта зрабіла, але сціпла пра тое не сказала.

12 лютага Ігар Комлік атрымаў пастанову аб выканаўчай вытворчасці. Яму дадзены 7-дзённы тэрмін для добраахвотнага выканання. Але ўжо 14 лютага (сем дзён ніяк не маглі прайсці) у бухгалтэрыю прафсаюза РЭП прыйшло прадпісанне «об обращении взыскания на заработную плату и приравненные к ней доходы», у якім судовы выканаўца С. Хаванская патрабуе здзяйсняць утрымание 50% заработнай платы ў залік пагашэння шкоды. А ўжо 20 лютага судовы выканаўца С. Хаванская пастанавіла «ўжыць захады для забеспячэння выканання выканаўчага дакумента ў выглядзе забароны на адчужэнне аўтатранспартнага сродку» Ігара Комліка. Прасцей кажучы, на аўтамабіль і прычэп да аўтамабіля накладзены арышт. Якім нарматыўным або заканадаўчым актам кіравалася судовая выканаўца — нам не вядома.

Больш за тое, мы падалі заявы, на якія не атрымалі адказу. Судовыя выканаўцы павінны былі звярнуцца ў Следчы камітэт, дзе захоўваюцца канфіскаваныя ў нас грошы, аднесці іх у банк, абмяняць на беларускія рублі, паведаміць нам, паводле якога курсу абмянялі, а потым казаць пра тое, ці маем мы яшчэ запазычанасці ці не маем.

Узнікаюць сур'ёзныя пытанні пра прафесіяналізм судовых выканаўцаў. Судовая выканаўца Петранчук не магла не ведаць, што нельга накладваць арышт на адзіную кватэру, дзе пражывае чалавек, хай нават асуджаны. Няма сумневу, што скаргі на пастановы абедзвюх судовых выканаўцаў лягуць на стол кіраўніка гэтай службы — так павінна быць паводле закону. Калі гэтага будзе недастаткова, тады мы гатовыя звярнуцца ў Міністэрства юстыцыі і суд.

Мы будзем інфармаваць, як далей пачнуць развівацца падзеі. Беззаконне не будзе!» — заявіў Генадзь Фядыніч.

**Паводле praca-by.info, пераклад НЧ**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Словы і справы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Уся лента навінаў забітая «Вялікай размовай» Аляксандра Лукашэнкі. Нехта яго ўхваляе за падтрымку незалежнасці, нехта бэсціць журналістаў за тое, што задавалі «не тыя» пытанні. А мне прыходзіць на розум іншае.**

У выдатнага фантаста, папулярызатара навукі і ўраджэнца Беларусі Айзека Азімава ёсць такі раман: «Акадэмія» (у розных перакладах па-рознаму). Там мэр планеты Тэрмінус Сальвор Хардын сустракае пасла Галактычнай імперыі, і па выніках перамоў, з дапамогай сімвалічнай логікі аналізуе яго размовы. «Шчыра кажучы, спачатку я прыняў яго вялікасць пасла за цалкам безнадзейнага асла, але аказалася, што гэта разумны чалавек і выдатны дыпламат... За ўсе пяць дзён перамоў лорд Дорвін, панове, не сказаў нічога сэнсоўнага і прымудрыўся зрабіць гэта так, што вы нічога і не заўважылі!» — пісаў Азімаў.




**ЕБРР і ЕС будуюць у Беларусі дарогі, заклапочаныя ЖКГ і пітной вадой, рэгіянальным развіццём... Пытанне: калі гэта робіцца за кошт вонкавых інвестыцый, куды і на што ідуць нашыя ўнутраныя падаткі?**

Калі такім чынам прааналізаваць «Вялікую размову» — я ўпэўнены, таксама не застанецца нічога. Усе, хто кажа пра «каштоўнасць незалежнасці ў прамовах Лукашэнкі», хто спадзяецца, што ён вырашыць агучаныя праблемы і іншае, забываюцца на адно. Аляксандр Рыгоравіч — выдатны папуліст і, паводле азначэння Азімава, «разумны чалавек і выдатны дыпламат». Ён сказаў тое, што прысутным (і беларусам у цэлым) хацелася пачуць. Ні больш, ні менш. Але вынікаў ад гэтага не будзе ніякіх.

Эканаміст Яраслаў Раманчук уступіў у спрэчку з кіраўніком дзяржавы наконт таго, што зносяць аб’екты буйных інвестараў з-за памылкі Мінгарвыканкаму. Лукашэнка загадаў разабрацца. З моманту «размовы» прайшло больш за тыдзень, і штосьці няма інфармацыі пра дзеянні Камітэта дзяржкантролю альбо Следчага камітэта ў гэтым накірунку.

На мінулай «размове» Лукашэнка казаў пра вылучэнне FM-хвалі для «Еўрарадыё». Пасля той размовы Аляксандр Рыгоравіч нават інтэрв’ю «Еўрарадыё» даваў, а хвалі як не было, так і няма.

Дый што там казаць! У 1994 годзе Кебічам была закрытая радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» — за тое, што давалі эфір і Лукашэнку таксама. І Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў: як ён стане кіраўніком дзяржавы, вокамгненна адкрые тое радыё. Чакаем адкрыцця «БМ» 25 гадоў...

Не варта аналізаваць гэтую прамову. Бессэнсоўна. Справа не ў словах, справа — у справах. А вынікаў ад «страсання паветра» няма. І наўрад ці будуць.

Яшчэ адзін прыклад. На тыдні кіраўнік краіны падпісаў дырэктыву №6 «Аб развіцці вёскі і павышэнні эфектыўнасці аграрнай галіны». Пры выкананні ўстаноўленых дырэктывай заданняў да канца 2020 года аб’ёмы вытворчасці малака ў краіне павінны дасягнуць 9 мільёнаў тон на год, прадукцыі вырошчвання жывёлы і птушкі — 1,8 мільёна тон. Павінен быць забяспечаны рост прадукцыйнасці працы ў сельскай гаспадарцы на 40% і ўзровень заработнай платы ў галіне не ніжэй за ўзровень, сярэдні ў эканоміцы.

У сувязі з такой дырэктывай ёсць два пытанні. Першае: ніхто не навучыў худобу чытаць, і яна, хутчэй за ўсё, не здагадваецца, што павінна выдаваць 9 мільёнаў тон малака на год. Другое: куды мы падзенем столькі малака ды мяса жывёлы і птушкі? Беларускі рынак насычаны. Расельгаснагляд ставіць нам перапоны па малаку і мясу. Кітай пакуль бярэ невялікія аб’ёмы, а ў Еўропе свае фермеры малако ў каналізацыю зліваюць...

Гэта тое, пра што мы пішам адвечна: структура спажывання змянілася. І зараз важныя не аб’ёмы, а продажы. Пажадана, без запазычанасці. Куды мы прададзім тыя мільёны тон мяса і малака? Дырэктыва пра гэта не кажа...

Яшчэ адна падзея тыдня, якая выклікае пытанні. Кіраўнік краіны 4 сакавіка сустрэўся з прэзідэнтам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Сумам Чакрабарці і падкрэсліў, што Беларусь заўсёды будзе свята выконваць дамоўленасці, якія заключыла з банкам. «Хачу адзначыць праекты, якія звязаны з галіной жыллёва-камунальнага будаўніцтва, павышэння якасці пітной вады, будаўніцтвам дарог, рамонтам мастоў, якія ў нас у многіх населеных пунктах патрабуюць гэтага неадкладна. Гэта жыццёва важныя праекты для нашай дзяржавы», — прызнаў кіраўнік Беларусі.

Вочы на лоб лезуць. Па-першае, мы ўжо павінны аплачваць 100% паслуг ЖКГ. Навошта нам тады праекты ЕБРР? На будаўніцтва дарог і рамонт мастоў з нашых аўтамабілістаў здымаюць «падатак на дазвол да руху транспартнага сродку» і акцызы на бензін — то бок, двойчы. Калі дарогі і масты будуюцца па праектах ЕБРР, куды ідуць нашы грошы?

Ці не адначасна ў Мінску адбыліся штогадовыя кансультацыі паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам па пытаннях рэалізацыі праектаў і праграм міжнароднай тэхнічнай дапамогі. У вітальным слове намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алег Краўчанка вітаў рост аб’ёмаў і якасці супрацоўніцтва, у тым ліку пашырэнне фінансавых інструментаў ЕС, у якіх удзельнічае наша краіна. Беларускі дыпламат падкрэсліў, што сродкі ЕС накіроўваюцца на падтрымку канкрэтных праектаў у галіне мясцовага і рэгіянальнага развіцця, энергаэфектыўнасці, аховы навакольнага асяроддзя, барацьбы з кліматычнымі зменамі, падтрымку малога і сярэдняга бізнесу і іншае.

«Ласкавае цяля дзвюх матак ссе». ЕБРР і ЕС будуюць дарогі, заклапочаныя ЖКГ і пітной вадой, рэгіянальным развіццём і прадпрымальніцтвам... Пытанне зноў тое ж: куды і на што, у такім разе, ідуць нашы ўнутраныя падаткі?

Што ж да спраў, то іх робяць іншыя людзі. Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей сустрэўся з амерыканскай дэлегацыяй на чале з намеснікам памочніка Дзяржаўнага сакратара ЗША Джорджам Кентам. Макей афіцыйна праінфармаваў амерыканскі бок пра адмену абмежаванняў на колькасць супрацоўнікаў пасольства ЗША ў Мінску, якія дзейнічалі з 2008 года. Кіраўнік МЗС выказаў надзею, што гэты крок будзе спрыяць нармалізацыі адносін паміж Беларуссю і Штатамі.

Гэта азначае, што нашым грамадзянам у хуткай будучыні ўжо не давядзецца ехаць у Варшаву ці Кіеў, каб атрымаць візу ЗША. Рашэнне, наколькі павялічыць штат супрацоўнікаў, застаецца за амерыканцамі.

Так што словы і дырэктывы — гэта толькі «страсанне паветра». Важна тое, ці ўвасобяцца яны ў жыццё. Калі маленькія справы, кшталту FM-хвалі для «Еўрарадыё», здзейсняцца, то і пра незалежнасць можна падумаць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Павел Севярынец



**Суд Фрунзенскага раёна Мінска асудзіў сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Але ёсць нюансы.**

Падставай для суда стаў заклік Севярынца да ўдзелу ў акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў падтрымку беларускіх палітвязняў, змешчаны ў Facebook. Аднак, па-першае, заклік быў змешчаны на старонцы Севярынца, але не ўласна ад яго, а ў адпаведнасці з рашэннем Форума «Свабоду палітвязням». Па-другое, Севярынец быў затрыманы 26 лютага на выхадзе з дому, і, адпаведна, у акцыі не ўдзельнічаў. Па-трэцяе, суддзя Буйноўская адхіліла пазоў Севярынца, каб працэс вёўся на дзяржаўнай мове — беларускай. І да таго ж палітык 72 гадзіны правёў у вязніцы да суда.

Адвакат Вадзім Мушынскі падчас працэсу спаслаўся на Канстытуцыю, на права на мірныя сходы і выказванне свайго меркавання ды папрасіў спыніць судавытворчасць. Але, насуперак Асноўнаму закону, Павел Севярынец быў асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

Таксама цікава: непасрэдныя ўдзельнікі акцыі, якіх у гэты ж дзень судзілі ў судзе Цэнтральнага раёна, атрымалі не арышты, а штрафы — ад 40 да 45 базавых велічыняў.

### Эдуард Пальчыс



**Арганізатары акцыі на Дзень Волі падалі новую заяўку на святкаванне ўгодкаў БНР.**

Падчас «Вялікай размовы» з журналістамі і прадстаўнікамі экспертнай супольнасці Лукашэнка заявіў, што арганізатары Дня Волі не атрымаюць у якасці пляцоўкі стадыён «Дынама».

У адказ арганізатары падалі ў Мінгарвыканкам заяўку з прапановай правесці святкаванне на іншых пляцоўках. «У нас два варыянты. Першы варыянт — шэсце да пляцоўкі ля Палаца спорту і сам Палац спорту як месца, дзе будзе адбывацца святкаванне. Другі варыянт — шэсце на плошчу Свабоды, дзе будзе мерапрыемства. Гэта дзве пляцоўкі, на якіх штогод праводзіцца шмат масавых мерапрыемстваў, самых розных — ад сельскагаспадарчых выстаў да байк-шоў з удзелам кіраўніка дзяржавы і яго сыноў. Гэта не новенькі стадыён «Дынама», дзе каго-небудзь можна абразіць. Таму мы не бачым прычын для адмовы», — адзначыў Эдуард Пальчыс.

Дырэктар крамы symbal.by Павел Белавус кажа: «Мы не просім нейкія фантастычныя варыянты... Названыя лакацыі добра вядомыя як месца арганізацыі масавых мерапрыемстваў. Гэта магло б быць кампрамісным варыянтам для ўсіх бакоў».

Ён кажа, што не будзе браць удзел у святкаванні 101-й гадавіны незалежнасці БНР на плошчы Бангалор. «У выпадку адмовы магчымы сцэнар з дэцэнтралізацыяй святкавання, — кажа Белавус. — Мы не збіраемся ладзіць палітычную акцыю, гэта будзе свята, каб людзі маглі ўзняць бел-чырвона-белыя сцягі, пачуць віншаванні».

### Святлана Алексіевіч



**Пасля перапынку Нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Святлана Алексіевіч аднаўляе сустрэчы «Інтэлектуальнага клуба».**

Першымі гасцямі стануць амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр і беларускі айцішнік Віктар Пракапеня. А наступнымі, падобна, будуць пісьменнікі Альгерд Бахарэвіч і Віктар Марціновіч.

Марціновіч размясціў на сваёй старонцы ў Facebook фота са Святланай Алексіевіч і пакінуў да яго подпіс: «На вечар 26 сакавіка пакуль нічога не плануйце». Але падрабязнасцяў распавесці не змог: «Хутка будуць навіны».

У інтэрв'ю TUT.BY Святлана Алексіевіч казала, каго з беларусаў яна хацела б запрасіць у інтэлектуальны клуб: «Цяпер, пачытаўшы Бахарэвіча, хацела б запрасіць яго ў клуб. Ён інтэлектуальна небанальны... Яго цікава слухаць. Ён і Марціновіч — два найбольш цікавыя пісьменнікі з новай генерацыі сёння».

Раней гасцямі ў «інтэлектуальным клубе» Алексіевіч былі толькі замежнікі: перакладчыца і паэтка Вольга Седакова, пісьменнікі Людміла Уліцкая, Уладзімір Сарокін, Рута Ванагайте, рэжысёр Аляксандр Сакураў, палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, дакументаліст і фатограф Ян Бертран.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Вялікая размова пра леташні снег

**Аснову сучаснага глабальнага канфлікту «складае барацьба сучаснага і несучаснага светаў».**




Гэту думку я запазычыў з кнігі расійскага эканаміста Уладзіслава Іназемцава «Несучасная краіна». Кніга прысвечаная Расіі. Аднак гэта, калі пагадзіцца з адзіным палітыкам (АП), «наша Расія».

Можна, зразумела, і не згаджацца, аднак роднаснасць дзвюх мадэляў адмаўляць складана. І першае, што кідаецца ў вочы, — гэта дэфіцыт унутраных крыніц развіцця, што і пацвердзіла «Вялікая размова», якая адбылася 1 сакавіка. Сем з паловай гадзін не хапіла АП для таго, каб патлумачыць, за кошт чаго пад канец наступнай пяцігодкі ВУП Беларусі складзе $ 100 мільярдаў. І гэта нягледзячы на найпрасцейшае пытанне, якое паступіла ад аднаго з удзельнікаў «размовы».

На працягу стагоддзяў «славянская цывілізацыя», пад якой АП разумее Расію, Беларусь і Украіну, развівалася за кошт знешніх запазычанняў, што не замінала (якім бы дзіўным гэта ні падавалася) фарміраванню пачуцця выключнасці, не перашкодзіла памкненню не столькі даць свету нешта новае, колькі не дапусціць страты ранейшых здабыткаў. Адсюль культ стабільнасці, пакланенне якому і апынулася ў цэнтры «Вялікай размовы».

### Не вёў агітацыю і не збіраецца

«Нам трэба будзе даць аб'ектыўную ацэнку адносна самых абмяркоўваемых тэмаў, якія асабліва хвалююць людзей і грамадства... А па асобных пытаннях нам трэба кампенсаваць недахоп дакладнай інфармацыі, паток якой штодня абрушваецца на кожнага з нас», — такімі словамі акрэсліў АП мэту «Вялікай размовы».

Мэта агульная, але асобна для СМІ, «якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя», гаспадар мерапрыемства нагадаў пра існаванне мяжы дапушчальнага, за «якой парушаецца раўнавага ў грамадстве». Што ж, своечасовы напамін. Да аўтара «Азбукі паліталогіі» гэта мае непасрэднае дачыненне.

Не абышлося і без панегірыкаў на адрас «сённяшняга чытача». АП ахарактарызаваў яго як адукаванага, які ўмее аналізаваць, разбіраецца «ў тонкасцях журналісцкіх маніпуляцый» і аваладаў мастацтвам «хутка счытваць, чые ці якія інтарэсы стаяць за анонсам праграмы або загалоўкам навіны».

Ці існуе такі чытач у прыродзе — пытанне спрэчнае. Але калі існуе, дык незразумела, чаму пры наяўнасці чытачоў, здольных адрозніваць праўду ад хлусні па адных толькі загалоўках, так званыя «фэйкавыя навіны», нават пасля іх выкрыцця, здольныя «бударажыць людзей»?

Зразумела, не абышлося без развагаў пра маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

У несучасных краінах — а такіх у свеце большасць — выбары не маюць на мэце рэальную канкурэнцыю кандыдатаў, якія прапануюць выбаршчыкам розныя шляхі развіцця краіны. Прыклад, як правіла, падаюць уладныя кандыдаты. Таму не варта здзіўляцца заяве АП пра тое, што ён у мінулую перадвыбарчую кампанію не вёў агітацыю, дый падчас маючай адбыцца таксама не збіраецца тое рабіць.

Нацыянальная адметнасць выбараў у Беларусі такая, што

**Сучасныя краіны становяцца ўсё больш сучаснымі , а несучасныя — усё больш архаічнымі. Замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола глабалізаванай эліты, — прыклад нацыянальнай здрады**

забяспечваецца высокая яўка выбаршчыкаў і падтрымка канструктыўных кандыдатаў і без адміністрацыйнай мабілізацыі электарату. Навошта ж дарма марнаваць народныя грошы на агітацыю? Выбаршчыкі, якія па анонсах праграм кандыдатаў чые інтарэсы тыя на самай справе прэзентуюць, у агітацыі не маюць патрэбы.

Строга кажучы, само паняцце «выбары» ў наш несучасны свет прыцягнутае за вушы са свету сучаснага. У нас — не выбары, а галасаванне. «Таму што выбары, — тлумачыць расійскі палітолаг і журналіст Яўгенія Альбац, — гэта не толькі момант, калі вы апускаеце свой бюлетэнь, выбары — гэта на самай справе працэс. Гэта перадвыбарчая кампанія, падчас якой прадстаўнікі розных палітычных партый маюць магчымасць прапанаваць выбаршчыкам розныя кошыкі сваіх прапаноў. Свае праграмы».

І яшчэ адна нацыянальная асаблівасць, пра якую ўвесь час нагадвае кіраўнік дзяржавы: маючыя адбыцца палітычныя падзеі ў нас традыцыйна становяцца экзаменамі — і не толькі для АП, але і для ўсіх узроўняў вертыкалі.

Выбары, такім чынам, плаўна трансфармуюцца ў цырыманіял акламацыі (ад лацінскага слова «acclamatio» — «крык», «усклік», «вокліч»). Так у старажытным Рыме гарадское насельніцтва воклічамі выказвала адабрэнне або незадавальненне наконт пастановаў уладаў, якія зачытваліся ў цырку. Можна прыгадаць і казакоў з іх ухвальнымі воклічамі «люба!» на Вайсковым коле.

### Адгадаць з трох разоў

Несучасныя краіны любяць укідваць у інфармацыйную прастору пытанні, якія не маюць на ўвазе адмоўнага адказу, а калі і маюць, дык выключна з боку «нацыяналістаў», «пятай калоны», «ворагаў народа» і да т.п. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца перакос знешнепалітычных пытанняў над эканамічнымі.

Вернемся ў Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», дзе праходзіла «Вялікая размова». «Вы ўсе ведаеце, што знешняя палітыка Беларусі шматвектарная і праводзіцца выключна ў інтарэсах забеспячэння бяспекі і захавання міру на нашай планеце. Мы супраць любых праяваў агрэсіі, як ваеннай, так і на злобу дня — інфармацыйнай».

Хто і што тут можа запярэчыць? Гэта ж не публічна дыскутаваць наконт эфектыўнасці палітыкі ў галіне падаткаабкладання або фарміравання расходнай часткі бюджэту, як гэта робіцца ў сучасных краінах. Але ідзем далей.

«Па перыметры нашай мяжы ўзнікаюць новыя кропкі напружанасці. Дагаворы, якія забяспечвалі баланс ваенных сіл на планеце, разыходзяцца па швах. У разгары новая гонка ўзбраенняў», — палохае журналістаў і экспертаў АП. А каб быць пераканаўчым, ён пераходзіць да тэмы падвойных стандартаў краін NATO. Польшча, паводле яго словаў, мае намер выдаткаваць на абарону каля $ 50 мільярдаў. У той жа час на любы крок у адказ Беларусі і Расіі ў напрамку ўмацавання ўласнай ваеннай моцы ў Еўропе пачынаюць «гвалтам крычаць».

АП заклікаў незалежныя СМІ быць аб'ектыўнымі і ставіцца да падобных фактаў з пункту гледжання нейкага аднаго крытэру.

Своечасовы заклік. Грэх ім не скарыстацца. На працягу 5 гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» быў удзельнікам канферэнцыі «Рубікон». Канферэнцыя праходзіла ў Таліне ў будынку парламента. З уступным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, як правіла, звярталася міністр замежных спраў Эстоніі. Натуральна, яна казала пра міралюбную палітыку краіны і рэгулярна скардзілася на тое, што, у адпаведнасці з нормамі NATO, Эстонія вымушаная марнаваць на абарону 2% дзяржаўнага бюджэту.

Я не эксперт па Эстоніі, але выключна знешне аб'ектыўнасць слоў міністра пацвярджала адсутнасць людзей у ваеннай форме на вуліцах Таліна. Аднак у адзін з маіх прыездаў гатэль, у якім размяшчаліся ўдзельнікі канферэнцыі, быў перапоўнены афіцэрамі NATO (пераважалі немцы). Прапаную чытачам з трох разоў здагадацца, у які год здарылася гэта неардынарная падзея.

Той, хто назаве 2014-ы, не памыліцца. З таго ж года калоны ваеннай тэхнікі сталі часткай інтэр'еру эстонскіх дарог. Але што тут прычына, а што следства? Ці не час АП разабрацца з адказам на гэтае пытанне і назваць рэчы сваімі імёнамі, замест рэгулярных развагаў на тэму адсутнасці ў Еўропе захаплення з нагоды «абранага Беларуссю курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы, падпарадкаванай інтарэсам чалавека».

### Разбой на месцах

У чым АП мае рацыю, дык гэта ва ўзмацненні расколу ў свеце. Калі ў 1800 годзе, калі верыць англійскаму статыстыку Ангусу Мэдзісану, паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі адсталыя ў 4 разы, то ў цяперашні час — у 100 разоў, і разрыў працягвае павялічвацца.

Зноў працытую Іназемцава: «Сучасныя краіны становяцца ўсё больш сучаснымі (у тым ліку выкарыстоўваючы рэсурсы і грамадзян астатняга свету), а несучасныя — усё больш архаічнымі. Мы прысутнічаем пры нараджэнні свайго роду «расколатай цывілізацыі», дзе імкліва фармуюцца полюсы багацця і беднасці, поспеху і няўдач. У такіх умовах замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола цалкам глабалізаванай эліты, уяўляе сабой прыклад маштабнай нацыянальнай здрады».

У беларускай несучаснасці ёсць свае бенефіцыяры. Мабыць, самы яркі момант «Вялікай размовы» — аповед АП пра прынцыпы размеркавання зямлі ў Беларусі.

Даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай, што без рашэння АП ні кавалка зямлі ці лясных угоддзяў у нас не атрымаць. Чаму? А таму, што на месцах «разбой пачынаецца». «Вось так і з усёй уласнасцю».

Але прабачце, а хто пачынае разбой на месцах: нацыяналісты, прадстаўнікі так званай «пятай калоны» або прызначаныя асабіста АП чальцы ўладнай «вертыкалі» ў асобе кіраўнікоў раённых і абласных адміністрацый?

Адказ відавочны, бо нічога больш несучаснага, чым уладная «вертыкаль» у пытаннях кіравання ў наш час няма.



Фота Дзіяны Пінчук

# «Справа БелТА»: што гэта было?

Дзіяна СЕРАДЗЮК,
Сяргей ПУЛЬША

**Прысуд Марыне Золатавай прымушае паламаць галаву: чаго ўрэшце дамагаліся аўтары «справы БелТА» і, галоўнае, — ці дамагліся?**

## Баяцца ўсім!

У панядзелак, 4 сакавіка, суд Заводскага раёна Мінска прызнаў галоўную рэдактарку TUT.BY Марыну Золатаву вінаватай у «бяздзеянні службовай асобы» (ч. 2 арт. 425 Крымінальнага кодэкса) і прызначыў ёй штраф у памеры 300 базавых велічыняў. Калі ўлічыць, што пакаранне паводле інкрымінаванага артыкулу вагалася ад штрафу да пяці гадоў пазбаўлення волі з забаронай займаць пэўныя пасады, а дзяржабвінаваўца прасіла пакараць Золатаву штрафам у 1000 базавых, прысуд атрымаўся надзіва мяккім.

Усёй гэтай справы не павінна было быць увогуле. Паролі БелТА ў дзяржаўных СМІ не змяняліся дзесяцігоддзямі, і любы, звольнены з дзяржСМІ за гэты час, мог імі карыстацца. Да таго ж, у самой БелТА ў дамове карыстання інфармацыяй не было забаронена выдаваць гэтыя паролі «іншым асобам».

Сведкі, якіх дапытвалі ў судзе, адназначна паказалі: следчыя, якія займаліся гэтай справай, змушалі даваць іх паказанні менавіта супраць Золатавай. Золатава, калі ёй стала вядома пра тое, што яе супрацоўнікі карыстаюцца «левымі» паролямі да БелТА, правяла тлумачальную працу з тымі, хто, наколькі ёй было вядома, паролямі карыстаўся, і запатрабавала спыніць такую практыку. Ужо толькі на падставе гэтага справу пра «бяздзейнасць службовай асобы» можна было б закрыць. Бо такія патрабаванні — «дзеянне», а не «бяздзейнасць».

Але ў выніку памер штрафу неяк слаба карэлюецца з тымі брутальнымі дзеяннямі сілавікоў, з якіх усё пачыналася. Няўжо 300 базавых (7650 рублёў) вартыя ўсіх тых гучных падзей, якія суправаджалі «справу БелТА», нерваў, якія давялося сапсаваць Золатавай і яе блізкім, і апублічвання непрыгожых фактаў пра неабароненасць інфармацыі БелТА і ціск у СК?

Відавочна, што матэрыяльная мэта тут была не галоўнай (хаця, калі ўлічыць, што ўсе фігуранты справы сплацілі астранамічныя сумы «шкоды», то нажыцца на «справе БелТА» некаму ўсё ж удалося). Затое была іншая мэта – ідэалагічная. І нават некалькі.

Па-першае, узгадаем, што ўся «справа БелТА» закруцілася з праслухоўвання тэлефонных размоў Золатавай, якое вялося яшчэ да таго, як у дзяржаўнае інфармагенцтва паступілі скаргі на праблемы з доступам да платнай стужкі ад газет «Рэспубліка» і «Звязда» (калі яны ўвогуле былі). Ледзьве не да апошняга было таямніцай, на якой падставе і наколькі правамерна праслухоўвалі Золатаву, але раптам на апошнім перад вынясеннем рашэння пасяджэнні 25 лютага ўсплыла пракурорская санкцыя на праслухоўванне. Ці не была гэтая папера напісаная заднім днём, застаецца толькі здагадвацца. А можа, гэта было зроблена адмыслова: маўляў, ведайце, што любыя размовы ў нашай краіне праслухоўваюцца, і ў любы момант усё, што вы скажаце, можа быць выкарыстана супраць вас?

Так і засталося невядомым, хто з'яўляецца заказчыкам гэтай, так бы мовіць, кампаніі. Але зразумела, што гэта тыя, хто дае загады пракуратуры і Следчаму камітэту. Такая «гульня ўцёмную», верагодна, павінна была нагнаць страху на незалежную прэсу і грамадзянскую супольнасць: маўляў, ёсць такая нябачная і ўсёабдымная сіла, якая кантралюе ўсё і ўсіх. Але насамрэч — не. Яна толькі паказала, што тыя, хто за гэтым стаяць, — баязліўцы, не здольныя ісці на дыялог і адкрыта выказаць свае прэтэнзіі.

Чаму ахвярай стала менавіта Марына Золатава, якая хоць і не апошні, але ўсё ж не галоўны чалавек на TUT.BY, — таксама загадка. Відавочна, што незалежным медыям (і асабліва буйнейшаму парталу краіны) такім чынам хацелі паказаць, хто ёсць сапраўдным гаспадаром і сейбітам медыяполя ў Беларусі (хаця, пагадзіцеся, неяк дзіўна рабіць гэта, не называючы імя).

## Спектакль праваліўся

Цікава, навошта былі патрэбныя дзясяткі затрыманняў іператрусаў у журналістаў, якія цяпер выглядаюць як лішнія дэкарацыі ў гэтым абсурдным спектаклі? Няўжо выбітныя «драматургі» («тэатралы», «гісторыкі» і іншыя «інтэлігенты» з сілавых структур) перастараліся? Падобная сітуацыя была і з гісторыяй «фрау А» і «прарывам» машыны са зброяй з боку Украіны падчас «справы патрыётаў», калі выдумаць гісторыю фантазіі хапіла, а ўпісаць яе ў кантэкст — не.

Калі ў выпадку «Белага легіёна» абвінавачванне ўрэшце развалілася, то «справу БелТА» ўсё ж давялі да суда. Пра што, бадай, пашкадавалі ўжо на першым судовым пасяджэнні, якое спарадзіла безліч мемаў пра паролі, якія дасылаліся па факсе. Хацелі драму, а атрымалі фарс, падчас якога дзяржаўныя СМІ, дый увогуле дзяржаўная сістэма, атрымалі столькі «мінусаў у карму», што дзіркі ў той карме зацыраваць ужо немагчыма.

Працэс над галоўнай рэдактаркай TUT.BY стаўся сутыкненнем дзвюх сістэмаў, дзвюх розных галактык, паралельных рэчаіснасцяў, траекторыі якіх дзіўным чынам перакрыжаваліся ў кропцы пад назвай «справа БелТА». Сама Марына Золатава ў апошнім слове адзначала: гэтая справа раскалола медыясупольнасць Беларусі і ўзвяла сцяну паміж дзяржаўнымі і недзяржаўнымі СМІ. Але насамрэч гэты раскол існаваў і раней. Проста калі дагэтуль «дзяржаўнікам» і «незалежнікам» удавалася падтрымліваць прыяцельскія стасункі, то пасля суда над галоўнай рэдактаркай TUT.BY стала неяк няёмка глядзець адно аднаму ў вочы.

## Злодзеі і героі

Важна і тое, у якім кантэксце быў абвешчаны прысуд Золатавай. Паралельна на гэтым тле адбываліся жорсткія затрыманні, штрафы і суткі грамадскім актывістам. У «Вялікай размове» Лукашэнка недвухсэнсоўна і жорстка выказаўся адносна сітуацыі ў Курапатах, хаця раней здавалася, што ў гэтым пытанні ён захоўвае нейтралітэт. Разам з адказам арганізатарам святкавання Дня Волі–2019 пра тое, што на стадыёне «Дынама» ім месца не дадуць, гэта выглядае як плявок у твар грамадству, і вельмі падобна на чарговае татальнае закручванне гаек, якое было вясной 2017-га. Маўляў, два гады адпачылі — і годзе расслабляцца.

Калі ўлічыць, што Захад такія дзеянні беларускіх уладаў, мякка кажучы, не ўхваляе, можна меркаваць, што ўсё агулам, у тым ліку «справа БелТА», — не толькі асабістая ініцыятыва кіраўніцтва краіны, але і некаторыя праявы «інтэграцыі» з Расіяй. Хаця адназначна сцвярджаць гэта складана, бо, па-першае, затрыманні журналістаў адбыліся яшчэ да заяў пра інтэграцыю, а па-другое, той жа TUT.BY многія ўшчувалі за менавіта прарасійскую падачу некаторых тэмаў.

Іншая справа, што TUT.BY — рэсурс уплывовы і ахоплівае вялікую чытацкую аўдыторыю. Таму ціск на яго падрывае давер да ўладаў нават з боку звычайна лаяльнага электарату. І дзяржсістэме гэта яшчэ адгукнецца. Ды нават ужо адгукнулася: чарговы раз Беларусь з'явілася ў міжнародных навінах як краіна, дзе пераследуецца свабода слова і прыціскаюцца незалежныя СМІ. Многія сусветныя арганізацыі выступілі ў падтрымку TUT.BY і недзяржаўных беларускіх медыя і асудзілі дзеянні ўладаў краіны.

Хто сапраўды паказаў сябе дастойна на гэтым працэсе, дык гэта калектыў TUT.BY. Журналісты парталу, якія асвятлялі судовы працэс, рабілі гэта максімальна дакладна і карэктна, не дазвалялі сабе весціся на правакацыі, праяўляць агрэсію ці нават сарказм (хаця пасля ўсяго, што адбылося, мелі на гэта поўнае маральнае права!). Такім чынам «справа БелТА» паказала, што ў Беларусі ўсё ж існуе прафесійная журналістыка, але флагманамі яе з'яўляюцца зусім не дзяржаўныя СМІ.

Сама Золатава, бадай, была адзінай, хто захоўваў здаровы сэнс у гэтым тэатры абсурду, хаця, паводле сцэнару, менавіта яна павінна была трапіць пад усеагульнае асуджэнне. Але яна не толькі спакойна і цвёрда трымала абарону, але і выявіла сябе чалавекам звышпрыстойным і сумленным, калі абараняла калег на допыце ў Следчым камітэце.

«Калі б я не захоўвала аптымізм, я б даўно ўжо не працавала б у такой сферы. Ёсць розныя фактары, якія паказваюць, што кантроль у ёй будзе значна больш жорсткі, але гэта не значыць, што мы павінны спыніць працу і кудысьці з'ехаць. Проста трэба рабіць сваю працу так, як трэба», — сказала Марына Золатава пасля абвяшчэння прысуду.

На гэтым і трымаецца сапраўдны журналісцкі прафесіяналізм. І платны раздзел стужкі навін не мае да яго ніякага дачынення.

## Кантэкст

Дык што ж стаіць за «справай Золатавай»? Па меркаванні старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэя Бастунца, «абсалютна відавочна, што сэнс судовага пераследу быў у тым, каб перафарматаваць інтэрнэт-прастору Беларусі, у якой сёння незалежныя інтэрнэт-рэсурсы, у першую чаргу TUT.BY, займаюць вядучае месца».

Мы і з вуснаў высокапастаўленых чыноўнікаў ужо не адзін год чуем пра тое, што ім трэба больш працаваць у інтэрнэце, што яны прайграюць «бітву за сеціва» (а значыць, і за маладое пакаленне). Але яны проста не могуць «перафарматаваць» інтэрнэт-прастору, бо мазгі ў іх не так «заточаныя». Інтэрнэт патрабуе гнуткасці, хуткіх рашэнняў, працы без дэдлайнаў і часам на мяжы фолу. «Дзяржаўнікі», якія звыклі чакаць указанняў «зверху» і ўзгадняць ці не кожнае слоўца ў матэрыяле, прайграюць недзяржаўным СМІ: у вастрыні падачы інфармацыі, у апаратыўнасці... Калі б была знятая манаполія БелТА на інфармацыю з уладных крыніц і дзяржфінансаванне — дзе было б гэта агенцтва з 36 (!) падпісчыкамі?

Таму прысуд Золатавай і «справа БелТА» — гэта сапраўды наступ на свабоду слова. Але наступ, які не дасць выніку. Бо, нават калі б закрылі TUT.BY, яго месца б не заняла ніякая дзяржаўная кантора. Яны проста не могуць працаваць так, як «тут».

Ім застаецца толькі спробы адміністрацыйнага ціску — праз суды і Следчы камітэт. Але і гэта, як мы пабачылі, папросту не працуе...

# Выбары–1990:

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Беларусь непазбежна і незваротна мянялася, дзякуючы гарбачоўскай «перабудове». Гэта прадэманстравалі выбары ў Вярхоўны Савет 12 склікання, якія адбыліся 4 сакавіка 1990 года.**

Папулярнае беларускае выданне «Літаратура і мастацтва» 15 кастрычніка 1989 года апублікавала інтэрв'ю з самым маладым дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР 11 склікання, студэнтам Мінскага радыётэхнічнага інстытута Глебам Ерамеевым. Інтэрв'ю стала сапраўднай сенсацыяй: Ерамееў шчыра прызнаўся, што ў 1985 годзе фактычна быў прызначаны дэпутатам па ініцыятыве кіраўніцтва рэспублікі і рэктарата ВНУ, у якой вучыўся. Па словах маладзёна, перадвыбарчай барацьбы ў класічным разуменні не вялося — мелі месца толькі рытуальна-фармальныя сустрэчы з выбаршчыкамі, якім «усё да лямпачкі». Колькі слоў сказаў Ерамееў і пра стыль работы парламента 11 склікання: адсутнасць дыскусій, адзінадушная пазіцыя па ўсіх пытаннях. Эфектыўнасць дзейнасці камісіі па справах моладзі, чальцом якой ён з'яўляўся, Глеб Ерамееў ацаніў як нулявую.

Інтэрв'ю мела пэўны рэзананс на фоне таго, што 4 сакавіка 1990 года ў Беларускай ССР павінны былі адбыцца выбары ў Вярхоўны Савет 12 склікання.

## Закон, што дышаль…

Пасяджэнне чарговай дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11 склікання адкрылася 25 кастрычніка 1989 года. Галоўнай тэмай стала прыняцце новага закона аб выбарах народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Адно з пытанняў, вакол якіх разгарнуліся вострыя дыскусіі, тычылася прадстаўніцтва ў Вярхоўным Савеце дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый. Падобная норма была прапісаная ў законе аб выбарах народных дэпутатаў СССР ад 1 снежня 1988 года і з'яўлялася, па сутнасці, «заслонаю» тым, хто крытычна ставіўся да КПСС: Гарбачоўскае кіраўніцтва, рупячыся на словах за дэмакратыю, зусім не збіралася аддаваць парламенцкую перавагу магчымым канкурэнтам. Прадстаўнікі КПСС, УЛКСМ, УЦСПС і іншыя не ўдзельнічалі ў класічнай перадвыбарнай барацьбе. Яны абіраліся на сходах сваіх арганізацый.

Партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва БССР актыўна выступіла за ідэю прадстаўніцтва грамадскіх арганізацый. Старшыня Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей, што ў праекце закона аб выбарах колькасць дэпутатаў ад грамадскіх аб'яднанняў складае 120 чалавек — то-бок, адна трацiна парламента, колькасць якога была зніжана ў праекце з 485 да 360 дэпутатаў.

Дземянцея падтрымалі высокапастаўленыя партыйныя функцыянеры. Першы сакратар Жлобінскага гаркама КПБ Аляксей Зайцаў заклікаў захаваць квоту, якая, быццам бы, дапаможа спыніць «экстрэмістаў» і не даць ім прайсці ў парламент.

Аднак не толькі партыйныя службоўцы выступалі за прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый. Гэту ідэю падтрымалі некаторыя вядомыя культурныя і гаспадарчыя дзеячы.

Паэт Генадзь Бураўкін неабходнасць квоты матываваў тым, што на «дадзены момант узровень развіцця савецкага грамадства не дазваляе спадзявацца на наўпроставую канкурэнцыю». Аналагічнага пункту гледжання прытрымліваліся пісьменнік Іван Чыгрынаў і скульптар Заір Азгур.

Знакаміты аграрнік Васіль Старавойтаў заявіў, што прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый не дазволіць патрапіць у парламент тым людзям, якія жадаюць скасаваць калгасы і «рыхтуюць маім унукам дваццацігадзінны працоўны дзень».

Але некаторыя дэпутаты (Станіслаў Шушкевіч, Уладзімір Кавалёнак, Глеб Ерамееў і іншыя) выказаліся катэгарычна супраць прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый. Па іх меркаванні, гэта парушыла б дэмакратычны прынцып выбараў, спрыяла фармаванню нервовага становішча, калі адзін дэпутат абраны «трыма сотнямі», а іншы — «некалькімі тысячамі».

Закон аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР быў зацверджаны парламентарамі 27 кастрычніка 1989 года. Таксама былі ўнесеныя адпаведныя змены ў Канстытуцыю. Парламенцкае прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый захавалася, але не ў такім аб'ёме, як меркаваў Дземянцей: ад іх у Вярхоўны Савет Беларусі маглі абірацца толькі 50 дэпутатаў, так што перамога наменклатуры была частковай. Праўда, для дэманстрацыі плюралізму і галоснасці ў якасці такіх аб'яднанняў былі абраны не кампартыя, камсамол альбо прафсаюзы, а Беларуская рэспубліканская арганізацыя ветэранаў вайны і працы (29 мандатаў), Беларускае таварыства інвалідаў, Беларускае таварыства сляпых і Беларускае таварыства глухіх (па сем мандатаў). Аднак ад назваў гэтых аб'яднанняў сутнасць не змянялася: яны цалкам кантраляваліся КПБ, таму можна казаць пра «закамуфляваную» партыйную квоту ў будучым парламенце.

Істотным бар'ерам на шляху дэмакратычных выбараў было тое, што кандыдаты ў дэпутацкія крэслы вылучаліся працоўнымі калектывамі. Такая форма вылучэння была больш падкантрольная кіруючым камуністам.

Захавалася і норма, паводле якой у бюлетэнь уносілася любая колькасць прозвішчаў. Гэта значыць, што ў акрузе мог быць вылучаны адзін, безальтэрнатыўны кандыдат. Некаторыя чыноўнікі імкнуліся скарыстацца такой магчымасцю.

**Істотным бар'ерам на шляху дэмакратычных выбараў было тое, што кандыдаты ў дэпутаты вылучаліся працоўнымі калектывамі. Гэтая форма вылучэння была падкантрольная камуністам. Захавалася і норма, што ў бюлетэнь уносілася любая колькасць прозвішчаў**

Спецыяльнай пастановай Вярхоўнага Савета БССР 4 снежня 1989 года была ўтворана Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР (ЦВК). Камісію ўзначаліў былы кіраўнік Камітэта народнага кантролю БССР Міхаіл Лагір, яе чальцамі сталі 19 чалавек, у тым ліку вядомыя навукоўцы-юрысты Сцяпан Драбязга і Валерый Ціхіня. Самі ж выбары ў Вярхоўны Савет БССР 12 склікання былі прызначаныя на 4 сакавіка 1990 года.

## Чым раней, тым лепш

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый атрымалі дэпутацкія мандаты значна раней, чым іх будучыя калегі, якія абіраліся па акругах. 17 студзеня 1990 года адбыўся VII пашыраны пленум Беларускага рэспубліканскага Савета ветэранаў вайны і працы, на якім былі вылучаны 42 кандыдатуры. 20 лютага 1990 года дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР XII склікання сталі 29 чальцоў гэтай арганізацыі (Барыс Гетц, Міхаіл Качан і іншыя). Абранне дэпутатаў Вярхоўнага Савета ад іншых грамадскіх арганізацый (21 чалавек) адбылося ў лютым.

На 310 мандатаў прэтэндавалі 1427 зарэгістраваных кандыдатаў, прычым у некаторых акругах колькасць кандыдатаў, як кажуць, зашкальвала. Па Старажоўскай выбарчай акрузе №47 Мінска былі зарэгістраваныя 18 прэтэндэнтаў, у тым ліку мітрапаліт Філарэт, дырэктар ГУМа Пётр Казлоў, спецыяльны карэспандэнт маскоўскага часопіса «Дружба народов» Яўген Будзінас…

У другі тур выйшлі мітрапаліт Філарэт (Кірыл Вахрамееў) і прыхільнік БНФ Яўген Будзінас.

Яшчэ да першага тура на сустрэчы з кіраўніцтвам БНФ Філарэт казаў, што не будзе балатавацца па гэтай акрузе, але потым усё ж вылучыў сваю кандыдатуру, што выклікала негатыўную рэакцыю нават па-за межамі Беларусі. Расійскі журналіст Роберт Астроўскі назваў яго ўчынак **«приемом из шулерского арсенала партийной бюрократии».**

У перадвыбарчай праграме Будзінас (якога, дарэчы, падтрымаў Васіль Быкаў) заяўляў, што **«полностью поддерживает программу БНФ».** Паводле Будзінаса, БНФ «пока слабоват», але, **«голосуя за кандидатов БНФ, мы голосуем против консерватизма и того кошмара, к которому нас привела бюрократия всех видов и рангов — от мелкой чиновничьей до высшей партийной».** Філарэт жа ў кампаніі рабіў стаўку на праваслаўныя каштоўнасці.

У першым туры з 21 949 ахвароў акругі, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, 5679 аддалі галасы Будзінасу, 10 706 — Філарэту. Тады сярод выбаршчыкаў акругі была распаўсюджана адозва наступнага зместу (яе падпісалі Зянон Пазьняк, Віктар Івашкевіч, Мікола Купава, Пётр Садоўскі, Валянцін Акулаў і іншыя):

**«Когда мы голосуем за владыку Филарета, отдавая предпочтение должности, даже если она церковная, не уподобляемся ли мы жителям отдаленных сельских районов, выбравшим в Верховный Совет Соколова, Дементея? Да и так ли уж далеки высокопоставленные священники от наших высокопоставленных идеологов? Сопоставив условия их жизни, сравнив здание епархии и здание Минского горкома партии, нетрудно убедить-**


Кандидат в народные депутаты БССР

Юрий Викторович ХОДЫКО

Заведующий лабораторией Института физики АН БССР — кандидат в народные депутаты Белорусской ССР по Академическому избирательному округу № 27

БНФ

Ходыко Юрий Викторович родился в 1938 году в г. Минске. Русский. Член КПСС, образование высшее — окончил БГУ имени В. И. Ленина по специальности «физик». С 1960 года и до настоящего времени работает в Институте физики АН БССР — аспирант, младший научный сотрудник, старший научный сотрудник, заведующий лабораторией. Доктор физико-математических наук, профессор.

Награжден медалью «За доблестный труд. В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина».



Кандидат в народные депутаты БССР

Владимир Николаевич ЗАБЛОЦКИЙ

Начальник отдела Научно-исследовательского института электронно-вычислительных машин — кандидат в народные депутаты Белорусской ССР по Некрасовскому избирательному округу № 35

Владимир Николаевич Заблоцкий родился в 1939 году в д. Косачи Сенненского района Витебской области. Белорус. Член КПСС, образование высшее, окончил Московский энергетический институт. Кандидат технических наук.

С 1953 по 1957 год — студент энерготехникума. После окончания техникума начал трудовую деятельность на ТЭЦ-3, где работал водосмотром и кочегаром. В 1958 году до призыва в ряды Советской Армии работал старшим механиком отдела физики металлов, проводников и диэлектриков физико-технического института АН БССР. С 1958 по 1962 год служил в Советской Армии. После службы в Армии до 1966 года — студент энергетического института г. Москвы.

С 1966 по 1971 год — инженер, руководитель группы завода электронно-вычислительных машин им. Г. К. Орджоникидзе г. Минска. В 1971—1977 годы — заведующий отделом специальных устройств вычислительной техники, заведующий лабораторией, затем исполняющий обязанности заведующего лабораторией Института технической кибернетики АН БССР.

С 1977 года — начальник лаборатории, начальник отдела Научно-исследовательского института электронно-вычислительных машин.

Награжден медалью «Ветеран труда».


Кандидат в народные депутаты БССР

Олег Анатольевич ТРУСОВ

Начальник отдела комплексных исследований памятников института «Белспецпроектреставрация» ПО «Белреставрация» — кандидат в народные депутаты Белорусской ССР по Мирошниченковскому избирательному округу № 33

Олег Анатольевич Трусов родился в 1954 году в г. Мстиславле Могилевской области. Русский. Член КПСС. Образование высшее: окончил исторический факультет БГУ им. В. И. Ленина. Кандидат исторических наук.

С 1976 по 1985 год — научный сотрудник, старший научный сотрудник, начальник отдела археологии научно-исследовательского проектного бюро. С 1985 года — заместитель начальника научно-исследовательского проектного бюро по научно-исследовательской работе. С 1988 года — начальник отдела комплексных исследований памятников института «Белспецпроектреставрация» ПО «Белреставрация».

БНФ

# pro et contra



**ся, что разница невелика. Можем ли вспомнить хоть один случай, когда руководство Православной церкви в Белоруссии призвало к милосердию правительство по отношению к инакомыслящим, воззвало против вопиющего социального неравенства, против роскоши правительственных клиник?»**

Відавочна, гэтая адозва не дапамагла. У другім туры, 17 сакавіка 1990 года, з 19924 выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, за Будзінаса прагаласавалі ўсяго 6614, а за Філарэта — 11 973.

Тым не менш, акрамя акругаў, дзе было зарэгістравана шмат прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, існавалі і такія, дзе вылучаліся безальтэрнатыўныя кандыдаты. На канец лютага 1990-га такіх дэпутатаў налічвалася восем чалавек, сярод іх, напрыклад, партыйны кіраўнік Магілёўскай вобласці Васіль Лявонаў.

Мандаты імкнуліся атрымаць і вядомыя ў рэспубліцы людзі. Яны свядома дыстанцыяваліся ад гучных палітычных лозунгаў, спадзяваліся на свае мінулыя дасягненні. Гэтыя прэтэндэнты заклікалі звярнуць «увагу на безальтэрнатыўных кандыдатаў ці кандыдатаў з адным (падстаўным) канкурэнтам, якія могуць ператварыць выбары ў крывадушную пародыю і абразіць грамадзянскую годнасць тысяч выбаршчыкаў».

Дэпутатамі жадалі стаць пісьменнік Мікалай Чаргінец, мастак Аляксей Марачкін, прадпрымальнік Уладзімір Карагін, лётчык-касманаўт СССР Уладзімір Кавалёнак…

Актыўна пазіцыянаваў сябе Кавалёнак. Ён назваў сябе «валявым чалавекам, які ўмее адчыняць дзверы» і заклікаў кожнага кандыдата «прасвяціцца на грамадскім рэнтгене».

Своеасаблівай альтэрнатывай сталі маладыя (30–38 гадоў), амаль нікому не вядомыя прэтэндэнты, якія вырашылі выпрабаваць палітычны лёс. Іх погляды і праграмы былі досыць эклектычныя, нават супярэчлівыя. Аднак сваёй энергіяй, уменнем падаць сябе яны заваёўвалі сімпатыі выбаршчыкаў. Гэта следчы з Магілёва Дзмітрый Булахаў, дацэнт Інстытута народнай гаспадаркі Віктар Ганчар, вайсковец з Кобрына Віктар Кучынскі, настаўнік з Ашмянаў Анатоль Лябедзька, дырэктар шклоўскага саўгаса «Гарадзец» Аляксандр Лукашэнка і шмат іншых.

Увесь пафас выбарчай кампаніі Лукашэнкі быў накіраваны супраць чыноўніцтва і «князькоў», якія «распіхаючы людзей, жадаюць узяць дэфіцыт першымі». Малады дырэктар, які вылучаўся па Шклоўскай выбарчай акрузе №310, выступіў як заўзяты патрыёт Магілёўскай вобласці, якая, у адрозненне ад «адбудаваных» Брэста, Мінска і Гродна, апынулася «на завуголлі». Лукашэнка наракаў, што Шклоўскі раён, у якім «перабудова як пачалася ў 1985 годзе, так тады і скончылася», займае адно з першых месцаў у рэспубліцы па анкалагічных захворваннях і сухотах, і што шклоўчанін у год спажывае 20 кілаграмаў мяса, а сталічны жыхар — 114.

Супернікамі Лукашэнкі былі Яўсей Карнееў — першы намеснік старшыні Магілёўскага абласнога савета народных дэпутатаў, старшыня аграпрамысловага комплексу Магілёўскай вобласці; Вітольд Буевіч — галоўны ўрач Шклоўскай цэнтральнай раённай бальніцы; Уладзімір Громаў — дырэктар эксперыментальнай базы «Спартак». У другім туры Лукашэнка ўпэўнена перамог галоўнага ўрача.

Нарэшце, асноўнай сілай, якая, па сутнасці, уносіла галоўную інтрыгу ў перадвыбарчую гонку, быў Беларускі народны фронт. На пасяджэнні Сойма БНФ 9 снежня 1989 года была зацверджана перадвыбарчая праграма Фронту пад назвай «Галасую за Беларусь!». У ёй гаварылася, што «Фронт з'яўляецца адзінай альтэрнатывай усеўладдзю партбюракратыі», а новы Вярхоўны Савет павінен здзейсніць карэнную палітычную рэформу, мэта якой — дасягненне рэальнага суверэнітэту рэспублікі.

У праграме крытыкаваліся цэнтрысты, якія спрабавалі «ўседзець на двух крэслах», абгрунтоўвалася неабходнасць уласнай валюты, прыярытэту грамадзянскай супольнасці над дзяржавай, рэалізацыі механізму альтэрнатыўнай вайсковай службы, прыняцця дэмакратычнай Канстытуцыі і закона пра архівы, знішчэння шостага артыкула Канстытуцыі СССР (паводле яго, «кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства, ядром яго палітычнай сістэмы, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый з'яўляецца Камуністычная партыя Савецкага Саюза», то-бок уся ўлада належала КПСС. — НЧ), выратавання беларускай мовы і гэтак далей.

Вялікую ўвагу ў сваёй перадвыбарчай барацьбе БНФ надаваў чарнобыльскай праблеме. Чарнобыльская катастрофа, сцвярджалі прадстаўнікі Фронту, «паказала праўдзівае месца Беларусі ў Саюзе — месца паўкалоніі».

БНФ удалося вылучыць шмат паплечнікаў. Свае кандыдатуры зарэгістравалі кандыдат мастацтвазнаўства, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР Зянон Пазьняк, начальнік комплексных даследаванняў помнікаў інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» Алег Трусаў, уласны карэспандэнт па Беларускай ССР газеты «Маскоўскія навіны» Ігар Гермянчук, інжынер-электронік Клецкага механічнага завода Мінскай вобласці Леанід Дзейка, начальнік аддзела Навукова-даследчага інстытута завода электронна-вылічальных машын імя Арджанікідзэ Уладзімір Заблоцкі, доктар фізіка-матэматычных навук, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі АН БССР Юрый Хадыка.

Супраць БНФ кіраўніцтва рэспублікі кінула добра адладжаную прапагандысцкую машыну. Сродкі масавай інфармацыі настойліва ўдзёўбвалі насельніцтву думку пра БНФ як пра дэструктыўную і разбуральную сілу. Газеты стракацелі лістамі «працоўных» пра тое, што «калі не спыніць варожую дзейнасць БНФ, то небяспечная сітуацыя будзе нарастаць як снежны камяк, гэта можа прывесці да падпалаў, пагромаў і кровапраліццяў».

Бліжэй да выбараў сітуацыя абвастралася. Асабліва небяспечным стала 25 лютага 1990 года. У гэты дзень па закліку БНФ, як сцвярджалі яго лідары, на сталічную Плошчу Леніна выйшлі 100 000 чалавек, шматтысячны натоўп таксама атачыў галоўны будынак тэлебачання. БНФ запатрабаваў роспуску Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, адстаўкі парткіраўніка Яфрэма Сакалова, а таксама рэгістрацыі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты некаторых актывістаў БНФ.

### Вынікі

У выбарах 4 сакавіка 1990 года прынялі ўдзел 6 356 210 выбаршчыкаў з 7 308 156 чалавек, уключаных у спісы для галасавання, ці 87%. Народнымі абраннікамі сталі 98 чалавек. Пры гэтым колькасць безальтэрнатыўных дэпутатаў узрасла да 20.

**Супраць БНФ кінулі добра адладжаную прапагандысцкую машыну. СМІ настойліва ўдзёўбвалі думку пра Фронт як пра дэструктыўную і разбуральную сілу. Газеты стракацелі лістамі «працоўных» пра тое, што «калі не спыніць варожую дзейнасць БНФ, то небяспека будзе нарастаць…»**

У другім туры — 17–18 сакавіка — удзел прынялі 77,2%. Мандаты атрымаў 131 чалавек.

Вынікі парламенцкіх выбараў у сакавіку 1990 года былі гнятлівымі. Па аднамандатных акругах было абрана ўсяго 229 дэпутатаў. Калі да апошніх прыплюсаваць 50 дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, то ўсё адно колькасць вакантных месцаў у Вярхоўным Савеце 12 склікання складала 81. Гэта было несувымерна ніжэй у параўнанні з Расійскай Федэрацыяй і Украінай, дзе на аналагічных выбарах прадстаўнічыя органы фармаваліся значна хутчэй, хоць іх колькасць пераўзыходзіла беларускі парламент на парадак.

Прычыны такой з'явы хаваліся ў недасканаласці беларускага выбарчага заканадаўства. Прынцып «50%+1 голас» быў абавязковы і для другога тура, між тым як у Расіі і ва Украіне кандыдат лічыўся абраным, калі за яго прагаласавала простая большасць.

Паўторныя выбары адбыліся 22 красавіка 1990 года і праводзіліся па 18 акругах, таксама 5 траўня — па 63 акругах, і будучы парламент папоўніўся яшчэ 38 дэпутатамі. У выніку паўторнага галасавання з 10 па 14 траўня былі абраны 11 дэпутатаў.

Усяго ў вясновую кампанію 1990 года да адкрыцця пасяджэння першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 12 склікання (15 траўня) у парламент былі абраны 278 дэпутатаў. Разам з дэпутатамі ад грамадскіх арганізацый агульная колькасць парламентарыяў склала 328 чалавек (адзін з новаабраных дэпутатаў, генеральны дырэктар Светлагорскага аб'яднання «Хімвалакно» памёр да пачатку працы новага парламента).

Выбары не абышліся без інцыдэнтаў. 16 траўня 1990 года старшыня Мандатнай камісіі Васіль Лявонаў адзначыў, што ў Цэнтрвыбаркам паступіла 1472 лістоў і тэлеграм са скаргамі і прэтэнзіямі, 5000 чалавек звярнуліся «асабіста і па тэлефоне».

У студзені 1990 года брэсцкі бюлетэнь БНФ «Шлях» апублікаваў нататку пра незаконнае вылучэнне кандыдатам у народныя дэпутаты па Ганцавіцкай выбарчай акрузе № 116 першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова. Нягледзячы на скаргу прыхільнікаў БНФ у маскоўскі Камітэт канстытуцыйнага кантролю, кандыдатура беларускага партыйнага функцыянера была зацверджана мясцовай, а потым і Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

Пэўны рэзананс атрымала перадвыбарчая барацьба ў Сеніцкім выбарчым участку №27 Мінскага раёна паміж міністрам унутраных спраў БССР Віктарам Піскаровым і пісьменнікам Васілём Якавенкам. Пісьменнік, абвінаваціўшы «сілавіка» ў тым, што той прыцягваў для агітацыі міліцыянтаў і аказваў ціск на выбаршчыкаў, здолеў дамагчыся падтрымкі мясцовай пракуратуры, якая ўнесла адпаведны пратэст у акруговую камісію. Аднак усё ж Мандатная камісія прызнала паўнамоцтвы Піскарова.

Мелі месца і сітуацыі, калі грамадзяне, не згодныя з вынікамі галасавання на тым ці іншым выбарчым участку, скардзіліся (праўда, безвынікова) у Цэнтрвыбаркам. 27 жніўня 1990 года некалькі жыхароў Светлагорска сцвярджалі, што абранне ў іх горадзе дэпутатам міністра юстыцыі БССР Валерыя Ціхіні нелегітымнае, бо прайшло з грубымі парушэннямі: нібыта колькасць выбаршчыкаў у параўнанні з мінулымі гадамі была зніжана на 2,5 тысячы чалавек, бюлетэні выдаваліся без прад'яўлення пашпарта і гэтак далей.

Выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання прадэманстравалі асаблівасці палітычнай атмасферы рэспублікі. І самая галоўная з асаблівасцяў была ў тым, што ў Беларусі, у адрозненне ад іншых еўрапейскіх рэспублік СССР, «перабудоўчыя» працэсы і галоснасць укараняліся ў свядомасці выбаршчыкаў павольна. Беларусы значна цяжэй адмаўляліся ад савецкай спадчыны і паварочваліся да дэмакратыі. Пры ўяўнай вялікай папулярнасці ў БНФ атрымалася правесці ў парламент толькі каля двух дзясяткаў чалавек.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АРМЕНІЯ. Нішто не забытае...

Змена рэжыму прынесла і змены ў каляндар афіцыйных датаў. Цяпер у ім з'явілася 1 сакавіка. Менавіта 1 сакавіка ў 2008 годзе ў Арменіі адбыліся трагічныя падзеі. Пасля прэзідэнцкіх выбараў, на якіх, паводле афіцыйных дадзеных, перамогу атрымаў прарасійскі палітык Серж Саргсян, у Ерэване пачаліся масавыя акцыі пратэсту. Раніцай 1 сакавіка 2008 года паліцэйскія напалі на лагер апазіцыянераў, якія апратэстоўвалі афіцыйныя вынікі падліку галасоў. Пазней у той жа дзень паміж пратэстоўцамі і сілавікамі адбыліся сутычкі, у выніку якіх 10 чалавек загінулі, сотні былі параненыя. Да перамогі Пашыняна дату 1 сакавіка ўлады намагаліся не афішаваць. Аднак цяпер пра 1 сакавіка 2008-га ўзгадалі на самым высокім узроўні. У сталіцы з удзелам кіраўніцтва краіны прайшло шэсце. Прэм'ер выступіў са зваротам да нацыі. Аднак самы вялікі «падарунак» да даты зрабіла мясцовая Следчая служба, якая заявіла, што фальсіфікацыя выбараў і разгон дэманстрантаў у 2008-м былі замахам на канстытуцыйны лад. Сярод фігурантаў па гэтай справе — не толькі былы прэзідэнт Роберт Качаран, аднак і тагачасны генсек АДКБ Юрый Хачатураў, які, відавочна, падпарадкаваўся загадам Крамля.

**Паводле армянскай прэсы**

### УКРАІНА. Патрэбны свой «Брат–2»

Пра гэта кажа ці не самы папулярны на цяперашні дзень украінскі пісьменнік Сяргей Жадан. «Украінскія гарады стануць сапраўды ўкраінскімі тады, калі падлеткі пачнуць цытаваць украінскія фільмы, а не Галівуд або расійскае кіно», — сказаў Жадан. Паводле яго словаў, «для фармавання новага расійскага грамадства вельмі вялікую ролю адыгралі фільмы 1990-х і 2000-х гадоў. Гэтая эстэтыка — «Брат», «Брат-2», «Брыгада», калі малады расеец пачаў суадносіць сябе з моцным героем, які можа ўплываць на рэчаіснасць». Цікава, што заклік Жадана наконт украінскага «Брата–2» супаў з творчым крызісам ва ўкраінскім кіно. Пасля 2014 года дзяржава інвеставала вялікія грошы ў стварэнне патрыятычных фільмаў, якія гераізуюць змагароў за ўкраінскую незалежнасць. Аднак у практыцы фільмы чакаў амаль поўны правал. Самы паспяховы фільм — «Кібаргі», на які з дзяржбюджэту выдзелілі 48 мільёнаў грыўняў, прынёс толькі 20 мільёнаў. Увогуле, адзіны ўкраінскі фільм, што акупіўся з 2014 года ў пракаце, — камедыя «8 лепшых спатканняў» не закранае палітычных пытанняў, і ў дадатак знятая на рускай мове. Магчыма, сапраўды прыйшоў час для здымкаў украінскага «Брата–2».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФІЛІПІНЫ. Геі ідуць у партызаны?

З незвычайнай заявай выступіў Радрыга Дутэртэ, прэзідэнт Філіпінаў. Паводле яго словаў, 40 працэнтаў чальцоў Новай народнай партыі (NPA) — вайсковага аддзялення мясцовай Кампартыі, — з'яўляюцца асобамі з нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыяй. Калі гэта так, то трэба прызнаць, што гомасексуалісты — някепскія вайскоўцы. Партызанка NPA трывае з 1969 года, а пад яе кантролем цяпер знаходзіцца каля 800 муніцыпалітэтаў. З іншага боку, нельга выключаць, што Дутэртэ, якога за папулізм называюць «ціхаакіянскім Трампам», папросту спрабуе ўзняць свой рэйтынг за кошт гамафобнай рыторыкі. Неяк, пасварыўшыся з Касцёлам, ён казаў, што 90 працэнтаў усіх ксяндзоў таксама геі. Не вераць прэзідэнцкім разлікам і самі паўстанцы. Паводле словаў камандзіраў, прадстаўнікам ЛГБТ у прынцыпе дазволена ваяваць у шэрагах NPA, аднак кожны сябра групоўкі павінен думаць не пра інтым, а пра тое, як рэалізаваць у Філіпінах пастулаты марксізму-ленінізму.

**Паводле амерыканскай прэсы**



### ЗША. Замест каўбояў — «каўгёрл»

Калі верыць амерыканскай газеце «New York Times», на захадзе ЗША назіраецца незвычайны феномен. Усё больш прадстаўніц слабага полу ідуць у каўбоі. Паводле федэральнага міністэрства агракультуры, сёння прыкладна 12 працэнтаў фермаў у краіне належаць жанчынам. А ўсяго ў Злучаных Штатах прыкладна паўтара мільёна каўбоеў-жанчын. Прычым, хапае выпадкаў, калі фермерскай гаспадаркай вырашаюць займацца жанчыны, якія выраслі ў горадзе і маюць добрую адукацыю. «New York Times» не ведае адказу наконт крыніц такога трэнду. Ёсць версія, што прычынай можа быць змена шаблонаў наконт жаночых і мужчынскіх прафесій. У інтэрв'ю жанчыны-каўбоі сапраўды прызнаюцца, што заўжды марылі стаць каўбоямі, аднак баяліся гендарных стэрэатыпаў. Выданне заклікае філолагаў аператыўна прыдумаць жанчынам-каўбоям асобнае слова, напрыклад «каўгёрл».

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.cfr.org

# Супраць пятага мандату!

Алег НОВІКАЎ

**У Алжыры намер прэзідэнта Абдэль Азіза Бутэфлікі атрымаць пяты мандат выклікаў беспрэцэдэнтную палітычную дэстабілізацыю.**

Лепшы сродак зразумець цяперашні палітычны працэс у Алжыры, напэўна, — экскурс у гісторыю СССР, а дакладней, у часы «застою». Разам з танным «Агдамам» і хітамі Пугачовай іх атрыбутам была вялікая колькасць анекдотаў пра Брэжнева.

«Дарагі Леанід Ільіч» сам даваў для гэтага падставы. Нават у афіцыйнай хроніцы ён выглядаў вельмі кепска, у прамовах блытаў словы, часам слаба арыентаваўся, што ў выніку і выклікала камічны эфект. Прычым, як зараз вядома, сам палітык быў не супраць пайсці на пенсію, аднак гэта не падабалася яго атачэнню. У эліце існавалі розныя фракцыі і групоўкі, медыятарам паміж якімі ў сілу статусу і аўтарытэту мог быць толькі генсек.

Нешта падобнае назіраецца сёння ў Алжыры, якім ужо два дзесяцігоддзі кіруе Абдэль Азіз Бутэфліка. Слова «кіруе» выкарыстана тут умоўна, паколькі наўрад ці краінай можа кіраваць асоба, якая пасля інсульту ў 2012-м не можа хадзіць, ледзь гаворыць і амаль не выходзіць з еўрапейскіх шпіталяў. Але, як і ў выпадку з Брэжневым, адпускаць Бутэфліку, якому споўнілася 82 гады, на заслужаны адпачынак кіруючыя кланы не жадаюць. Таму, калі надышоў час заканчэння чацвёртай кадэнцыі кіраўніка дзяржавы, яго кулуарна вырашылі вылучыць на пяты тэрмін. Адпаведная заява была зробленая адным з клеркаў урада 10 лютага.

Грамадства ўспрыняла навіну з вялікім расчараваннем. Многія алжырцы, мяркуючы па прэсе, стаміліся ад сітуацыі, калі краінай, прыкрываючыся Бутэфлікам, кіруе ананімная група чыноўнікаў. Лічыцца, што такая форма ўлады з'яўляецца крыніцай вельмі моцнай карупцыі. Новы прэзідэнт, маўляў, мог бы палепшыць сітуацыю на антыкарупцыйным фронце. Моладзь спадзявалася, што сыход Бутэфлікі адкрые шмат кар'ерных ліфтаў. Аднак 10 лютага ўсім спадзяванням прыйшоў канец.

Хаця спачатку пратэсты супраць пятага тэрміну прэзідэнцтва абмяжоўваліся запісамі і мемамі ў інтэрнэце. Напрыклад, нехта здолеў адрэдагаваць старонку, прысвечаную прэзідэнту, у Wikipedia. Да агульнай інфармацыі пра тое, што Абдэль Азіз Бутэфліка — прэзідэнт, палітык і гэтак далей, дадалося слова «мумія». Дырэкцыя Wikipedia, натуральна, хутка тую «мумію» прыбрала, аднак на гэты час пра хуліганскі ўчынак ведаў увесь Алжыр.

А пасля адбыўся сапраўдны цуд. Нечаканы абурэнне ў сацыяльных сетках перарасло ў адкрыты пратэст. Геаграфія маніфестацый супраць пятага мандату хутка пашырылася на ўсе буйныя гарады краіны. Іх кульмінацыя здарылася напярэдадні 3 сакавіка, калі Бутэфліка павінен быў зарэгістравацца ў якасці кандыдата ў мясцовым ЦВК. Лічылася, што беспрэцэдэнтная пратэстная хваля паўплывае на канчатковае рашэнне пра балаціроўку.

Асобна спадзяваліся маніфестанты на Парыж — галоўнага партнёра і саюзніка Алжыру. Складнік іміджу Эмануэля Макрона — падтрымка дэмакратыі. Акрамя таго, пратэсты супраць пятага тэрміну падтрымала вялікая камуна выхадцаў з Алжыру, галасы якой уплываюць на вынікі выбараў. Аднак Францыя вырашыла трымаць дыстанцыю ад алжырскай фронды. Хіба прадстаўнік Саўміну выказаў надзею, што «хуткія выбары будуць імпульсам для вырашэння праблем Алжыру».

Паўплывала гэта або не на алжырскую адміністрацыю, аднак у выніку Бутэфліка ўсё ж быў зарэгістраваны. Хаця на факт пратэстаў ён сапраўды адрэагаваў — апублікаваў ліст, у якім заявіў, што пачуў галасы дэманстрантаў і паабяцаў: яго пяты тэрмін будзе апошнім, а наступныя выбары адбудуцца датэрмінова. Алжырцам паабяцалі таксама, што выбары пройдуць дэмакратычна.

Калі нехта і верыў у гэтыя словы, то вельмі нядоўга. Адно з абяцанняў прэзідэнта (забяспечыць справядлівыя выбары) было парушана ледзь не адразу. Паводле закону, кандыдат павінен асабіста падаць дакументы ў ЦВК. Па словах мясцовага старшыні ЦВК, Бутэфліка так і зрабіў. Аднак усёй краіне вядома, што ў гэты час ён знаходзіўся ў шпіталі ў Швейцарыі. Пасля такой дэманстратыўнай хлусні ўлады хваляванні пачаліся зноў.

Праўда, ёсць пытанне — наколькі хопіць у пратэстоўцаў імпэту? Справа не толькі ў жорсткіх паліцэйскіх рэпрэсіях. Культура вулічнага пратэсту ў Алжыры вельмі слабая. У тым ліку таму, што з нейкага часу пратэст сышоў у інтэрнэт. Гэты спецыфічны момант графічна пракаментаваў мясцовы карыкатурыст. На яго малюнку паліцыянт заклікае дэманстрантаў тэрмінова разысціся і вярнуцца ў сацыяльныя сеткі. Напэўна, на гэта і робіць стаўку ўлада, якая марыць пра пяты мандат і забываецца пра ролю брэжнеўскага застою ў калапсе СССР.

# Вяртанне жывых «саўкоў»

Алег НОВІКАЎ

**Пакуль расійскія сілавікі палявалі на Навальнага і яго прыхільнікаў, яны, падаецца, праспалі нараджэнне вельмі небяспечнай групоўкі — «Грамадзян СССР», або «жывых».**




Фота www.express.co.uk

Упершыню навіны пра дзейнасць групоўкі сталі з'яўляцца ўлетку мінулага года. Маскоўская вобласць, Кіраў, Кіславодск, Уладзікаўказ, Ніжні Ноўгарад, гарады Урала і Сібіры... У гэтых і іншых месцах паўсталі асяродкі тых, хто адначасова наладзіў працу ў сацсетках.

Вельмі часта адэпты СССР называлі сябе па рознаму — «Рух жывых суверэнных людзей» або «Прафсаюз Саюз ССР», «Прафсаюз жывых» і гэтак далей. Аднак нейкі агульны ідэалагічны кампанент у агітках розных груповак прысутнічаў. Яны лічаць, што жывуць не ў Расіі, а ў СССР. А такой дзяржавы, як Расійская Федэрацыя, на іх думку, папросту не існуе. Адсюль яшчэ больш цікавая высновa: усе грамадзяне РФ «мёртвыя», а грамадзяне СССР — «жывыя».

На першы погляд, гэта падобна на цяжкі дыягназ. Не кажучы пра тое, што савецкая спадчына трактуецца «жывымі» вельмі арыгінальна. Напрыклад, секцыя «грамадзян СССР» ва Уладзівастоку вядзе летапіс СССР ад бітвы чалавецтва з драконамі, якая, мяркуючы па ўсім, адбылася 7500 гадоў таму. Нягледзячы на тое, што СССР меў выразную структуру кіравання і ідэалогію, прыморскія «грамадзяне СССР» не прызнаюць сацыялізм. Уся ўлада ў СССР, па іх словах, павінна належаць не КПСС, а нейкаму «Народнаму вечу».

Адэпты СССР не адседжваюцца на сваіх сходах: яны актыўна блакуюць працу дзяржаўных органаў, перш за ўсё адмаўляючыся выплачваць «камуналку». Напрыклад, на Камчатцы справакаваны байкот плацяжоў набыў заўважны характар.

У адказ на «жыроўкі» камунальных службаў звычайна дасылаюць дакумент, у якім патрабуюць надаць дадатковыя дакументы, якія пацвярджаюць, што СССР сапраўды распаўся, а Расійская Федэрацыя з'яўляецца «пераемнікам СССР». Просяць таксама паперкі, «якія пацвярджаюць перадачу з балансу СССР на баланс РФ усіх актываў і пасіваў, у тым ліку прадпрыемствы, ЖКГ і рэсурсы, якія, згодна з артыкулам 10 Канстытуцыі СССР, з'яўляюцца неад'емным здабыткам народа».

Не прызнаюць грамадзяне фантомнага СССР не толькі «жыроўкі», але і пашпарты, медыцынскія полісы, іншыя афіцыйныя дакументы... Матывуецца гэта тым, што любая папера з пячаткай і гербам Расійскай Федэрацыі, маўляў, з'яўляецца «пазнакай раба».

Нарэшце, ідзе працэс фармавання альтэрнатыўных органаў улады. Яшчэ 2 кастрычніка 2018 года «аднавіў» сваю дзейнасць Вярхоўны савет СССР, старшынёй якога з'яўляецца Валянціна Іванаўна Рэўнава. Хутка пачалося дзяржаўнае «будаўніцтва» на месцах. У гэтым плане ўсіх апярэдзілі фанаты віртуальнага СССР у Паўночнай Асеціі. У інтэрв'ю «Радыё Свабода» іх лідар распавядае, што ў аўтаноміі ўжо працуе КДБ СССР, Мінасветы, савецкі МУС, і нават пашпартны стол. Ужо створаная камісія па вяртанні зямлі, дзяржаўнай і асабістай уласнасці савецкага народа.

Парадаксальна, аднак паліцэйская машына Расіі дасюль не здольная не толькі спыніць экспансію руху, аднак нават зразумець яго іерархію. Рэпрэсіі супраць канкрэтных актывістаў, хутчэй, спрыяюць папулярызацыі руху. Пасля таго, як у Сургуце за непадпарадкаванне паліцыі асудзілі мясцовага апостала «жывых», колькасць яго падпісчыкаў у сацсетках вырасла да 14 тысяч чалавек. Падаецца, самым вялікім дасягненнем сілавікоў у барацьбе з «жывымі» можна лічыць ліквідацыю ў лютым гэтага года МЗС СССР, якое складалася з адной жанчыны. Пасля вобшуку ФСБ яна публічна пагадзілася не лічыць сябе больш кіраўніком савецкай дыпламатыі.

Між тым, спецыялісты па дэструктыўных сектах кажуць, што перакананні «жывых» падобныя на неаязычніцкі акультны рух New Age. Аднак хто дакладна стаіць за праектам — не ведаюць. Затое, па іх словах, з'явіліся прыкметы, якія паказваюць, што паступова рух «грамадзян СССР» фармуецца ў больш жорсткую структуру, якая ў выпадку пераследу можа пачаць працаваць у падполлі.

Канешне, не выключана, што «Грамадзяне СССР» — банальныя махляры. За адпаведную аплату яны раздаюць дзяржаўныя пасады і дакументы СССР. Пры гэтым, не прызнаючы Расійскую Федэрацыю, аплату за выдадзеныя людзям дакументы прымаюць у расійскіх рублях — па 300 рублёў (каля 8 беларускіх) за даведку. У Цюменскай вобласці ад грамадзян пад выглядам «аднаўлення СССР» патрабавалі перапісаць усю маёмасць, абяцаючы ў будучыні, пры савецкай уладзе, выдаць па 14 мільярдаў рублёў.

Феномен «Грамадзян СССР» і яго перспектывы каментуе для «Новага Часу» маскоўскі журналіст Сяргей Кудрашоў.

— Бум сектаў з элементамі неапаганцтва — з'ява, характэрная для ўсяго свету. Што тычыцца дадзеных асобаў, то іх з'яўленне шмат у чым заканамернае. Паводле сацыялагічных апытанняў, каля 65–70 працэнтаў расіян настальгуюць па Саюзу. Гэту настальгію даўно і актыўна эксплуатуе бізнес, выкідаючы на рынак тавары з савецкім брэндамі. На лозунгах пра адраджэнне СССР будуюцца палітычныя кар'еры. Зараз тэмай зацікавіліся дэструктыўныя элементы. Цікавей тое, што вельмі часта ў «жывыя» запісваецца электарат і нават нізавы актыў КПРФ. Таму не выключана, што вар'яцтва «жывых» будзе прарывацца ў расійскае палітычнае жыццё.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксандра Дулькевіч



Новы мэр Гданьску атрымала 80 працэнтаў галасоў на выбарах, якія давялося праводзіць датэрмінова праз забойства папярэдняга бургамістра Паўла Адамовіча.

Тое, што пані Дулькевіч была правай рукой вельмі папулярнага Адамовіча, па сутнасці, вызначыла вынік галасавання. Шок ад забойства ў жыхароў гораду дасюль не прайшоў. Тым не менш перамогу Дулькевіч нельга лічыць лёгкім шпацырам. Варта адзначыць, што мэр у Польшчы — пакуль не жаночая прафесія. Жанчыны ўзначальваюць толькі 12 са 107 муніцыпалітэтаў вялікіх польскіх гарадоў. Акрамя таго, на выбары 39-гадовая Дулькевіч ішла як незалежны кандыдат, супрацьпастаўляючы сябе адначасова кансерватыўнай урадавай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) і апазіцыянерам з ліберальнай «Грамадзянскай платформы» (PO). Асабліва жорсткую кампанію супраць яе вялі кансерватары, якія намагаліся давесці, што за Дулькевіч стаіць Брусэль, з якім у Варшавы цяпер не надта добрыя стасункі.

Наўрад ці з заканчэннем выбараў канфрантацыя Дулькевіч з PiS скончыцца. Напрыклад, гданьская мэрыя супраць таго, каб 1 верасня — дзень пачатку Другой сусветнай вайны, — адзначалася ў Гданьску адначасова як Дзень памяці смаленскай авіякатастрофы.

### Анатоль Грыцэнка



Кандыдат у прэзідэнты Украіны, які прадстаўляе сегмент выбаршчыкаў, што з аднаго боку падтрымліваюць Майдан, але з іншага — расчараваліся ў Парашэнку, яшчэ год таму быў у топе кандыдатаў.

Да пачатку сакавіка — за месяц да дня галасавання — ён нават не ўваходзіў у пяцёрку лідараў прэзідэнцкай гонкі. І нечакана шанцы Грыцэнкі зноў выраслі. З'явіліся чуткі, што менавіта на Грыцэнку робяць стаўку ў Вашынгтоне і ў Брусэлі. На гэта, нібыта, паказваюць некалькі момантаў. Па-першае, у лагер Грыцэнкі з фракцыі Парашэнкі перабегла групоўка дэпутатаў на чале з Мустафой Наёмам. Сябры гэтай групоўкі — сталыя госці ў заходніх пасольствах. Па-другое, нечакана на карысць Грыцэнкі зняў сваю кандыдатуру іншы кандыдат ад партыі Майдана — львоўскі мэр Андрэй Садовы, які раней упарта не хацеў блакавацца з Грыцэнкам.

Мясцовыя аракулы ад сацыялогіі лічаць, што цяпер Грыцэнка здольны дагнаць кандыдатаў Парашэнку і Цімашэнка (у іх прыкладна па 15 працэнтаў электаральнай падтрымкі), якія, у сваю чаргу, пераследуюць Уладзіміра Зяленскага (20 працэнтаў). Застаецца дачакацца новых сацыялагічных апытанняў і нагадаць забаўны факт: Садовы, па яго словах, пайшоў на выбары, бо так захацеў Ісус, які, быццам, з'явіўся ў сне яго жонцы. «Як Садовы можа парушыць устаноўку Ісуса?» — смяюцца ў сеціве.

### Правінд Джагнот



Прэм'ер Маўрыкія — астраўной краіны, размешчанай у Індыйскім акіяне, прыкладна за 900 кіламетраў на ўсход ад Мадагаскару, — святкуе перамогу праз рашэнне вярхоўнага суда ААН перадаць краіне архіпелаг Чагас.

Гэты архіпелаг зараз знаходзіцца пад кантролем Лондана. Суд пастанавіў, што Вялікабрытанія павінна як мага хутчэй перадаць Чагас маўрыканцам. Асноўным аргументам на карысць Маўрыкія было тое, што, пагадзіўшыся на незалежнасць Маўрыкія ў 1969 годзе Брытанія дзіўным чынам вырашыла захаваць за сабой згаданы архіпелаг. Акрамя таго, усіх абарыгенаў Чагас брытанцы ў свой час прымусова дэпартавалі.

Амаль паўстагоддзя маўрыкійцы патрабавалі аднавіць справядлівасць — і нарэшце дамагліся сапраўднага прарыву. Не дзіўна, што навіна з Гаагі выклікала эйфарыю на вуліцах Порт-Луі — сталіцы Маўрыкія. Брытанскі МЗС, у сваю чаргу, заявіў, што пастанова Гаагскага суда мае выключна кансультатыўны характар, а прыналежнасць архіпелага Чагас брытанцам, маўляў, дапамагае барацьбе з міжнародным тэрарызмам.

Раней Лондан абяцаў вярнуць астравы Маўрыкію, калі архіпелаг страціць статус стратэгічнага і абарончага аб'екта. Трэба прызнаць, што хуткая перадача Чагас малаверагодная, бо на адным з астравоў — Дыега Гарсія — знаходзіцца вайсковая база ЗША. Тым не менш, вердыкт Гаагі дае маўрыкійцам сур'ёзны козыр. Нельга забывацца і пра тое, што да ўлады ў Лондане хутка могуць прыйсці лейбарысты, якія традыцыйна выступаюць супраць брытанскай каланіяльнай спадчыны.

# НЕДААЦЭНЕНЫ Рыгор Барадулін

Станіслаў ШУШКЕВІЧ



**Імя Рыгора Барадуліна я ўпершыню пачуў, мабыць, ад свайго бацькі. І гэта нягледзячы на тое, што мы з Барадуліным былі студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прыкладна ў адзін і той жа час — ён закончыў БДУ ў 1959 годзе, я — у 1956-м.**

Мой бацька вярнуўся з Сібіры ў Мінск у гэтым годзе, у 1956-м... Ён вельмі любіў прымацьгасцей, любіў жартаваць і, мне здаецца, разумеў жарты і не заўважаў чужога нахабства.

У маладыя гады ў яго здараліся цікавыя сутычкі з вядомымі расійскімі паэтамі. Для яго не існавала аўтарытэтаў, народжаных не ім самім. Калі ў Мінску выступаў Маякоўскі, бацька задаў яму нейкае пытанне, на што Маякоўскі сказаў: «Што ты там пляцеш?» Бацька адказаў: «Калі я “пляту”, дык я пайду». І — пакінуў залу, хоць большасці прысутных гэта не спадабалася...

Што да беларускіх пісьменнікаў, дык бацька любіў іх перш за ўсё за творчасць, а іншых проста за беларускасць. Дома ў яго бывалі не толькі добра знаныя Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, але і амаль нікому невядомыя літаратары. Падчас адной з тых сустрэч бацька і прачытаў эпіграму на Рыгора Барадуліна. Цяпер ужо не прыгадаю яе (не ўпэўнены, што яна калі-небудзь друкавалася), але дакладна памятаю, што эпіграма была добразычлівая. Відаць, менавіта з таго часу і стала для мяне вядомае гэтае імя.

Я здаўна шчыра паважаў Барадуліна, любіў яго паэзію. І хоць я на два з паловай месяцы старэйшы за яго, але ў мяне ніколі не было падстаў лічыць Барадуліна блізкім сябрам і казаць «дзядзька Рыгор» — я заўсёды гаварыў «Рыгор Іванавіч», разумеючы пры гэтым, што гэта не зусім па-беларуску.

У маім уяўленні ён быў вельмі далікатны для паэта... Калі паглядзіш на іншых літаратараў, дык заўважыш, што некаторыя з іх лічаць сябе не інакш, як выбітнымі творцамі: рухаюцца паволі, перакананы ў сваёй выключнасці і незразумеласці для простых людзей і паводзяць сябе гэтаксама. Аднак я ніколі не чуў, каб Барадулін называў сябе творцам — ён рабіў усё проста, ніякага снабізму ў яго не было.

Іншая справа, эпіграмы пісаў такія, што калі прышлёпне каго, дык не аспрэчыш! Падобных «прыпячатак» я больш ні ў кога не сустракаў. Аднойчы я нават прызнаўся: «Сваёй эпіграмай Вы можаце ў попел перамалаціць каго заўгодна — так трапна, коратка і дакладна Вы здольны напісаць». І ўжо жартам дадаў: «У гэтым сэнсе я баюся Вас». Барадулін у адказ: «Ну, што Вы! Каб я мог нешта пра Вас не тое напісаць — гэта абсалютна выключана».

І сапраўды, мне ён прысвяціў тост і верш, якія зачытаў на вечарыне з нагоды майго 70-годдзя. Цытую паводле машынапісу, які перадаў мне тады Рыгор Іванавіч:

*«Вяльможны спадар Станіслаў Ст. Шушкевіч.*
*Дзякуй Вам за ўсё!*
*Спэцыйна для Вас напісаў тост:*

*Радзіма ў нас усіх адна.*
*Асушым келіхі да дна,*
*Каб мы жылі,*
*Каб мы былі*
*Нязводна на сваёй зямлі!*

**15.12.04, Mensk,**
**дзядзька Рыгор.**
*P. S. Гл. Стар. 10–11!*

*Лягчэй, напэўна, Гімалаі зрыць,*
*Чым навучыць —*
*І спікер ведаў гэта, —*
*На беларускай мове гаварыць*
*Таварышаў з Вярхоўнага Савета.*
*Інтэлігент паверыў сам сабе,*
*Што масла згоды з бурбалак саб'е!*
*Ды збілі з тропу бурбалкі самога,*
*Не ўратавала спікерская тога.*
*Дасведчана засведчана вякамі —*
*Рамантык не дамовіцца з ваўкамі...*

...Я часта прыгадваю адну даўнюю сустрэчу. На дзень нараджэння Васіля Быкава мы паехалі ў Бычкі. Быў там і Барадулін, з якім мы некалькі разоў на непрацяглы час заставаліся сам-насам, і тады Рыгор Іванавіч гаварыў пра гэты край, пра ўшацкую зямлю, але я быў, відаць, не дужа далікатны і не паводзіў сябе так, каб працягваць размову, бо, па-першае, мяне вельмі зацікавіла сястра Быкава Валянціна Уладзіміраўна, якая вельмі падобная на свайго брата, і мне захацелася пагаварыць з ёй. Па-другое, да Барадуліна льнулі літаральна ўсе — там было столькі прэтэндэнтаў на яго ўвагу, што ў мяне проста не хапіла нахабства адарваць яго ад астатніх. Іншым разам, думаў я. Але «іншы раз» не здарыўся: у апошнія месяцы жыцця Рыгора Іванавіча я хацеў з ім сустрэцца і падараваць сваю кнігу, але — не давялося...

Я вылучыў бы такую чацвёрку вялікіх творцаў: Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч. Менавіта ў такой паслядоўнасці, хай ужо прабачыць мне Ніл Сымонавіч, якога я ведаў яшчэ са студэнцкіх гадоў і да якога вельмі добра ставіўся. І калі паўстала пытанне пра наданне звання народнага паэта Гілевічу, я быў, безумоўна, «за». Аднак ужо тады лічыў: калі народны паэт Ніл Гілевіч, дык званне народнага павінен атрымаць і Рыгор Барадулін. І ўсё рабіў, каб так яно і сталася. Хто процідзейнічаў гэтаму — хай ужо застанецца са мной. Тым больш, што ворагаў у Рыгора Іванавіча, мусіць, не было — былі тыя, хто зайздросціў яму. Такое нязрэдчас здараецца сярод творцаў... Хоць мой бацька таксама быў паэтам, але нікому не тое што не зайздросціў — нават дрэннага слова не мог сказаць ні пра каго з беларускіх пісьменнікаў. І пра маладых гаварыў: «Якія таленавітыя! Якія добрыя!» А што ўжо да помсты, дык гэта яшчэ мая бабка казала, што помсцяць толькі нікчэмныя людзі. Аднак у выпадку з Барадуліным зайздросцілі ўжо не па-добраму, не зусім па-добраму... І калі б я ўважліва прыслухоўваўся да пэўных вельмі ўплывовых у той час асоб, дык ён мог бы і не атрымаць звання народнага паэта...

І раней, і цяпер я часам задумваюся, чаму мы, беларусы, не заўсёды з'яўляемся прыкладам сапраўднай беларускасці? На Украіне ўжо быў Шаўчэнка, а ў нас толькі праз семдзясят гадоў з'явіліся Купала і Колас, якія і сказалі, хто мы, беларусы, ёсць, і што мы павінны рабіць. Менавіта ў гэтым для мяне найперш асаблівасць Купалы і Коласа. А калі гаварыць пра беларускую мову, дык самая-самая годная мова для мяне мова Коласа і Кузьмы Чорнага. У сваю чаргу, самыя яскравыя паэтычныя знаходкі — гэта ўжо Барадулін, у якога, па-мойму, няма несапраўднай паэзіі. І калі многія пісьменнікі лічылі сваёй задачай пісаць і пісаць, дык Барадулін рабіў гэта проста ад душы — для яго гэта было абсалютна натуральна. У яго поўная нечаканасць і рыфмы, і сэнсу. Паэзія Барадуліна — гэта, на маю думку, набор вельмі прыгожых паэтычных спалучэнняў. І зрабіць заўвагу ў адрас яго паэзіі — нават пры самым старанным падыходзе — наўпрост немагчыма.

Аднак нягледзячы на ўсю сваю вядомасць, Барадулін і да гэтага часу недаацэнены. І, на вялікі жаль, наша нацыя беларуская знаходзіцца ў такім стане, што яшчэ доўга не ўсвядоміць, што для яе значыць Рыгор Барадулін.

**Літаратурны запіс Сяргея Шапрана**

**Фота Сяргея Шапрана**



Масленічны абрад «Гувясна» ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна, 2017 год



Масленічная гульня «Пахаванне Дзеда» ў Гарадоцкім раёне. 2014 год



Упрыгожванне ёлкі на Масленіцу ў вёсцы Тонеж Лельчыцкага раёна. 2014 год

# Чаму цябе, Масленка, ды не сем нядзель?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У беларускім традыцыйным календары Масленіца займае месца паміж зімовым і вясновым каляндарнымі цыкламі: гэта адначасова і провады зімы, і сустрэча вясны. Тэма такога пераходу з'яўляецца адной з асноўных у сімволіцы свята нароўні з тэмамі шанавання продкаў, стымуляцыі ўрадлівасці, фертыльнасці чалавека і жывёлаў.**

Масленіца можа прыпадаць на розныя даты. Дні святкавання разлічваюцца так: у праваслаўных восьмы тыдзень перад Вялікаднем, у каталікоў — з чацвера на восьмым тыдні да аўторка на сёмым тыдні перад Вялікаднем. У мясцовых традыцыях даўжыня святкаванняў можа адрозніваецца ад царкоўна- ці касцёльна-кананічнай. У некаторых беларускіх вёсках Масленіцу наогул не адзначалі.

Бадай, ніводнае іншае беларускае свята не мае такой вялікай колькасці мясцовых варыянтаў, як Масленіца. Да таго ж, святкаванні ў розных частках краіны могуць быць адзін да аднаго зусім не падобныя. Агульныя рысы Масленіцы, характэрныя для ўсёй Беларусі, канешне, ёсць: гэта спажыванне малочных прадуктаў і бліноў, разнастайныя катанні (на конях, на каруселі-«круцёлцы», з горак), гасцяванні ў сваякоў і суседзяў, спяванне песень (у кожнай мясцовасці адметных), суцэльны вясёлы настрой.

Усё згаданае актуальна для рэалій сельскай мясцовасці прыкладна да 1980-х гадоў. Сучасныя хатнія святкаванні Масленіцы і ў вёсцы, і ў горадзе звычайна абмяжоўваюцца выпяканнем бліноў, накрываннем багатага стала і хаджэннем у госці.

## Пра што пяецца ў масленках

Сярод масленічных песень (часам іх называюць «масленкі») выдзяляюцца звернутыя да самога вобраза свята. Яны часта пачынаюцца з закліку («Масленіца, дарагая», «А ты, Масленіца-палізуха», «А ты, Масленіца, белы сыр») ці з апісання свята («Мы Масленіцу дажыдалі», «Мы Маслянку сустракалі», «На святую Масляніцу да вылятала ластавіца»).

Масленіца ў звернутых да яе песнях паказваецца як любімае і доўгачаканае свята. Выказваецца шкадаванне пра малую працягласць святочнага перыяду, бо Масленіца выступае як прадвесніца Посту.

Сярод масленак шмат твораў на любоўна-шлюбную і сямейна-побытавую тэматыку. Паэтызуецца клопат моладзі пра стварэнне сям'і. Адзін з самых распаўсюджаных сюжэтаў — «Ластаўка кідае масла, дзяўчына топіць яго і поіць хлопца» (выкарыстоўвае масла як прываротнае зелле ці сродак падвышэння патэнцыі).

Сустракаюцца пазнавальныя сюжэты з жыцця: «Маці не пускае дачку на вуліцу», «Дзеўка збіраецца замуж», «Як ісці замуж за старога і як за маладога (роўніцу)», «Як ісці замуж за нялюбага». Дзяўчына параўноўваецца з кветкай, а яе дзявоцтва сімвалізуецца вішанькай, вінаградам, моркаўкай.

Па сваёй вобразнасці масленічныя любоўна-шлюбныя песні блізкія да вясельных. Хлопцы параўноўваюцца з Месяцам, селязнем, а дзяўчаты — з зоркамі, качкамі. Узнікае вобраз Дунай-ракі, што разліваецца на шляху ў вясельнага поезда.



У сямейна-побытавых масленічных песнях найчасцей пяецца пра цяжкасці замужняй жанчыны. Шмат тэкстаў паказваюць складанасці адаптацыі маладой жонкі ў сям'і мужа: «Свякроў ці свёкар шле нявестку па ваду ўначы», «Свякроў загадала працаваць у нядзелю», «Свякроў нагаварыла на нявестку сыну, і той забіў жонку»... Надзіва няшмат песень апавядае пра цяжкасці жыцця з п'яніцам.



Гаспадарчыя клопаты маладой жанчыны адлюстроўваюцца ў песнях «Маладзіца не ўмее ткаць» і ў песнях-заклёнах кштаўту: «Зарадзіся, мой лён даўгі». У іх звычайна няма згадак пра наяўнасць дзяцей у жанчыны, хутчэй, апавядаецца пра першы год замужжа, калі пераход у статус сямейнай жанчыны не завершаны, маладой жонцы яшчэ хочацца гуляць на вуліцы з незамужнімі дзяўчатамі.

## Масленіца без спальвання пудзіла

Спаленае пудзіла — бадай абавязковы атрыбут Масленіцы ў сучаснай масавай культуры, нароўні з блінамі. У беларускіх вёсках пудзіла палілі, але маглі рабіць гэта не толькі на Масленіцу, але і на іншыя каляндарныя святы (Купалле, Русалле).

Да 1950-х гадоў, калі праз установы культуры распаўсюджваліся стандартныя метадычныя дапаможнікі са сцэнарамі святаў, зробленых на аснове рускай культуры, звестак пра спальванне пудзіла менавіта на Масленіцу ў Беларусі няшмат. Сведчанні пра гэта паходзяць з усходу краіны.

У масленічным вогнішчы маглі спаліць старыя рэчы: адзенне, лапці, кола, кастрыцу, спарахнелую салому. Пудзіла ж у некаторых вёсках «хавалі» (закапвалі ў зямлю ці снег, закідалі саломай). Масленічныя гульнёвыя пахаванні — яскравая адметнасць паўночна-ўсходняй Беларусі. У побыце захавалася такая гульня ў Гарадоцкім раёне.

**Агульныя рысы Масленіцы, характэрныя для ўсёй Беларусі — гэта бліны, разнастайныя катанні (на конях, каруселі, з горак), гасцяванні ў сваякоў і суседзяў, спяванне песень (у кожнай мясцовасці адметных), суцэльны вясёлы настрой**

Жаночыя святкаванні, на якіх не дазвалялася прысутнічаць моладзі і мужчынам, найбольш характэрныя для Масленіцы ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі. Закрытыя застоллі ладзілі як каталічкі, так і праваслаўныя жанчыны. Звычайна такія размовы праходзілі ў апошні чацвер перад Вялікім Постам і зваліся «Валоссе» («Уласся», «(Бабскі) Улас», «Аўлас») па імю святога Уласа і, магчыма, паганскага апекуна хатніх жывёл Вялеса, святы якіх выпадалі на гэты час.

Жанчыны маглі таксама збірацца ў аўторак напярэдадні Папяльцовай серады. У большасці апісанняў «жаночае свята» — гэта проста застолле, часам з танцамі і непрыстойнымі жартамі.

У Паўднёвай Беларусі на Масленіцу ўжо гукалі вясну. Выкананне песень-вяснянак адбывалася пры вогнішчы, у якім згарае пудзіла. Выканаўцы абраду маглі трымаць у руках сыр, каравай ці ўпрыгожаную елку.

Фота аўтара

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы ўлюбёны верш Юрыя Гагарына? А пра тое, калі адзначаецца Міжнародны дзень рэк? Яшчэ шмат цікавага ў нашым аглядзе.**

### 9 сакавіка

130 гадоў таму ў Гродне нарадзіўся беларускі нацыянальны дзеяч, пісьменнік і педагог Уладзімір Пігулеўскі. У 1924–1925 гадах кіраваў Люцынскай беларускай гімназіяй у Латвіі. Затым загадваў Беларускім аддзелам пры тамтэйшым Міністэрстве асветы. Перакладаў на беларускую мову творы латышскіх і чэшскіх пісьменнікаў. На латышскую пераклаў камедыю Купалы «Паўлінка».

90 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы Аркадзя Наркевіча.

85 гадоў таму ў вёсцы Клушына на Смаленшчыне нарадзіўся Юрый Гагарын — першы чалавек, які пабываў у космасе. Беларусь ён называў



амаль Радзімай. Гагарын напамяць ведаў верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык», бо гэта быў улюбёны яго верш у дзяцінстве. Па сутнасці, класік беларускай літаратуры і натхніў на палёт касманаўта №1.

70 гадоў Вячаславу Дыдышку, 11-разоваму чэмпіёну Беларусі па шахматах, міжнароднаму гросмайстру, матэматыку-праграмісту.

### 10 сакавіка

80 гадоў таму ў Траецкім прадмесці ў Мінску прэм'ерай оперы «Міхась Падгорны» Яўгена Цікоцкага адкрыўся будынак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

75 гадоў таму нарадзіўся першы галоўны трэнер жаночай зборнай Беларусі па баскетболе Міхаіл Біцан. З клубам «Гарызонт» Біцан выйграў першыя тры нацыянальныя чэмпіянаты. Памёр у кастрычніку 2018 года.

### 11 сакавіка

90 гадоў з дня нараджэння Генадзя Праватарава, расійскага і беларускага дырыжора.

65 гадоў споўнілася б беларускай гімнастцы Тамары Лазаковіч — неаднаразовай чэмпіёнцы СССР, Еўропы і свету па спартыўнай гімнастыцы. Чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў у Мюнхене 1972 года. Апрача залатога медаля ў камандным заліку на той Алімпіядзе Лазаковіч заваявала срэбны медаль у практыкаваннях на бервяне і два бронзавыя — у мнагаборстве і вольных практыкаваннях. Памерла ў Віцебску ў 1992 годзе.

75 гадоў Мікалаю Баркоўскаму, беларускаму музыку, габаісту, з 1966 года салісту аркестра Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі.

### 12 сакавіка

90 гадоў таму нарадзіўся Уладзімір Колб, беларускі біяхімік-гематолаг, доктар медыцынскіх навук. Амаль 30 гадоў кіраваў Беларускім навукова-практычным таварыствам спецыялістаў клінічнай лабараторнай дыягностыкі і быў загадчыкам кафедры клінічнай лабараторнай дыягностыкі ў Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

### 13 сакавіка

75 гадоў таму ў Рудзенску Пухавіцкага раёна на Міншчыне нарадзілася Галіна Юркова-Данелія, рэжысёрка і актрыса. Жонка рэжысёра Георгія Данеліі, вядомага фільмамі «Я крочу па Маскве», «Афоня», «Міміно», «Кін-дза-дза». Дарэчы, у апошнім фільме Галіна Юркова здымалася (яна там жонка Машкова).

70 гадоў таму ў вёсцы Казанск Калінкавіцкага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Анатоль Тозік. У 2000–2006 гадах кіраваў Камітэтам дзяржаўнага кантролю, пасля гэтага быў пасылам у Кітаі і намеснікам прэм'ер-міністра. З канца 2014 года — у адстаўцы.

65 гадоў святкуе былы прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Сідорскі. На гэтай пасадзе ён працаваў з 2003 па 2010 гады. Нарадзіўся ў Гомелі. З 1976 па 1992 гады прайшоў шлях ад майстра зборачнага цэха Гомельскага завода радыётэхналагічна абсталявання да яго дырэктара. Затым да прэм'ерства былі пасады дырэктара аб'яднання «Ратон» (насамрэч, гэта той жа завод, перайменаваны ў ААТ «Ратон». — НЧ.), намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама, намесніка старшыні ўраду. Пасля адстаўкі з пасады прэм'ер-міністра працаваў чальцом (міністрам) Калегіі (па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі.

### 14 сакавіка

**Міжнародны дзень рэк.**

520 гадоў таму вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык дараваў Мінску Магдэбургскае права. Дагэтуль яно ўжо было ў шэрагу беларускіх гарадоў. Брэст яго меў з 1390 года, а Гродна — з 1391-га.

100 гадоў таму ў Нясвіжы пачалося антыбальшавіцкае паўстанне. На пачатку года горад быў захоплены бальшавікамі. Калі неўзабаве пачалася вайна з Польшчай, частка жыхароў Нясвіжа, пераважна палякі, вырашылі выгнаць «чырвоных» яшчэ да прыходу польскіх войскаў. Але тыя наступалі не так хутка, як спадзяваліся паўстанцы. У выніку паўстанне было задушанае, а яго арганізатараў — Мечыслава Валністага, Палікарпа Календу, Юзафа Янушкевіча, Канстанціна Шыдлоўскага і Станіслава Іваноўскага — ЧК 24 сакавіка расстраляла.

### 15 сакавіка

**Дзень Канстытуцыі Беларусі.** У гэты дзень у 1994 годзе Вярхоўны Савет прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі. Двойчы яна мянялася — праз праведзеныя з парушэннямі рэферэндумы 1996 і 2004 гадоў дзеля пашырэння паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі.

**Міжнародны дзень абароны правоў спажыўцоў.**

95 гадоў таму нарадзіўся беларускі гісторык і грамадскі дзеяч Міхась Белямук. Ён адзін з арганізатараў беларускага жыцця ў эміграцыі ў амерыканскім Клівлендзе, выдавец гістарычнага часопіса «Полацак».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



# «Каб адчуць сябе беларусам, вучу мову і раблю вышыванкі»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Сябры Слуцкага ТБМ запрасілі на чарговыя заняткі гуртка «Размаўляем па-беларуску» незвычайнага госця.**

Ваенны пенсіянер Валерый Плявака разам з 6-гадовым унукам прыйшлі на заняткі гуртка ў самаробных беларускіх вышыванках, з кошыкамі і сурвэткамі з беларускім нацыянальным каларытам.

І дарослыя, і дзіцячыя кашулі Валерый Плявака шые і вышывае ўласнаручна. Выкрайкі ён таксама робіць самастойна.

Удзельнікі гуртка з цікавасцю разглядалі незвычайную выставу, дзівіліся мастацтву Валерыя Плявакі і слухалі расповеды пенсіянера пра асаблівасці хатняй вытворчасці і яго любові да беларускасці.

— Каб адчуць сябе беларусам, вучу беларускую мову і ў летнія часы раблю нашыя беларускія вышыванкі, — гаворыць Валерый Сцяпанавіч. — Магу вышыць ільняную кашулю за 3 дні.

Прысутных уразіла якасць кашуляў, сурвэтак і кошыкаў, якія мужчына па-мастацку выраблае ў вольны час.

Вырас Валерый у дзіцячым доме і з удзячнасцю ўспамінае сваю цётку-закройшчыцу. У дзяцінстве яна калі-нікалі брала з сабой хлопчыка на працу, і ён прыглядаўся да працы закройшчыц.

Вучыўся ў рускамоўнай Грозаўскай школе-інтэрнаце ў Капыльскім раёне, цікавасць да беларушчыны і беларускай мовы адчуў пасля знаёмства з паэтам Сяргеем Панізнікам, з якім разам служылі на тэрміновай службе ў Чэхаславакіі.

Валерый Сцяпанавіч распавёў, што апранае льняную кашулю з беларускім арнаментам на ўсе гарадскія святы.

— Спачатку крыху было няёмка адчуваць на сабе цікаўныя погляды случчан, але пасля прызвычаіўся, — распавёў мужчына. — Знаходзіліся людзі, якія рэагавалі варожа, агрэсіўна. У апошні час стаўленне людзей мяняецца ў лепшы бок. Многія пытаюцца, дзе набыў кашулю і колькі яна каштуе.

Валерый Сцяпанавіч перажывае за прыніжаны стан беларускай мовы і нацыянальную свядомасць случчан. Працягвае вучыць беларускую мову. Вядзе адмысловыя слоўнікі, бярэ ў бібліятэцы беларускія кнігі. Клапоціцца, каб яго старэйшы ўнук Максім добра ведаў родную мову, і разам з унукам вучыць беларускамоўныя вершы і байкі.

**Фота аўтаркі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №359

Падпісана да друку 07.03.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.